ПРАЛЕТАРЫ ЎСІХ КРАІН, ЗЛУЧАЙЦЕСЯ!

# САВЕТЫ БЕЛАРУСІ



ШТОМЕСЯЧНЫ ЧАСОПІС ЦЭНТРАЛЬНАГА ВЫКАНАЎЧАГА КАМІТЭТУ БЕЛАРУСКАЙ САВЕЦКАЙ САЦЫЯЛІСТЫЧНАЙ РЭСПУБЛІКІ

№ 1 (27)

Чацьверты год выданьня

СТУДЗЕНЬ 1931 г.

# САВЕТЫ БЕЛАРУСІ

Штомесячны часопіс прэзыдыуму ЦВК БССР
па савецкім будаўніцтве

№ 1 (27) Студзень 1931 г. № 1 (27)

## Задачы саветаў і дзяржапарату ў 3-м годзе пяцігодкі.

Галоўнай задачай саветаў зьяўляецца няўхільнае і цьвёрдае правядзеньне ў жыцьцё генэральнай лініі партыі. З гэтае прычыны тая справаздачна-перавыбарчая кампанія саветаў, што адбываецца ў сучасны момант, ставіць, як асноўную задачу, перабудову ўсёй працы саветаў у адпаведнасьці з задачамі рэканструкцыйнага пэрыяду на аснове ўзьняцьця ролі саветаў, як праваднікоў генэральнай лініі партыі, як рашучых барацьбітоў супроць варожых лініі партыі правага і „левага“ апартунізмаў.

Важнейшыя задачы стаяць перад саветамі ў наступаючым годзе.

Пасьпяховае выкананьне задач трэцяга году пяцігодкі—рашаючага году для выкананьня пяцігодкі за чатыры гады —патрабуе надзвычайнага пашырэньня савецкага дэмакратызму, гэта значыць „далейшага ўзмацненьня актыўнасьці мас ва ўсёй справе сацыялістычнага будаўніцтва“.

Каб выканаць сваю ролю, саветы павінны ва ўсёй сваей рабоце **апірацца на масавы актыў і перш за ўсё на ўдарнікаў фабрык і заводаў і на калгасьнікаў і беднату ў вёсцы.** Выкарыстаньне новых сацыялістычных форм працы ў якасьці ўдарніцтва, сацспаборніцтва і г. д., шырокае разгортваньне пралетарскай крытыкі і самакрытыкі павінна быць штодзённым мэтадам масавай работы саветаў. Разгортваючы працу сярод ударнікаў, сярод калгасьнікаў і беднаты, саветы, пад кіраўніцтвам кампартыі, будуць уцягваць новыя мільёны рабочых і сялян у актыўную працу сацыялістычнага будаўніцтва.

Асобная ўвага павінна быць зьвернута на **ўцягненьне ў практычную работу саветаў жанчын-работніц, калгасьніц, батрачак, бяднячак і лепшых серадпячак.** Тых жанчын, што выбіраюцца ў саветы, трэба паставіць на практычную працу, замацаваць іх, як савецкі актыў, апірацца на іх для далейшага пашырэньня жаночага актыву.

Важнейшай справай у рабоце саветаў зьяўляецца **пераход на раённую сыстэму кіраўніцтва,** з перанясеньнем „цэнтру цяжкасьці працы партыі і савецкае ўлады ў раёны. Гэтым утвораны важнейшыя прадпасылкі для набліжэньня партыйнага і савецкага апарату да мас, да сяла, да калгасаў, а таксама для больш сваечасовай праверкі ідучых на месцы паказаньняў з боку абласных і цэнтральных органаў“. Вось чаму рашучае правядзеньне гэтага мерапрыемства ў адпаведнасьці з паказаньнямі партыі і ўлады зьяўляецца няўхіленым абавязкам як цэнтральных, так і мясцовых органаў улады.

Уся праца саветаў павінна быць накіравана на тое, каб **мабілізаваць масы на выкананьне задач сацыялістычнага будаўніцтва.**

Барацьба за выкананьне прамфінплану, арганізацыя і кіраўніцтва калгасным рухам бядняцка-серадняцкіх мас вёскі і ліквідацыя кулацтва як клясы, на базе суцэльнай калектывізацыі, разгортваньне мерапрыемстваў культурнага будаўніцтва і, у першую чаргу, па ўсеагульным навучаньні, ліквідацыі няпісьменнасьці і надрыхтоўцы пралетарскіх кадраў, паляпшэньне матар'яльнага і культурнага дабрабыту рабочае клясы і ўсіх працоўных, цьвёрдае выкананьне ўсіх чарговых гаспадарча-палітычных задач, вось тыя практычныя задачы, якія стаяць перад саветамі.

Важнейшай задачай у працы саветаў павінна зьяўляцца **ажыцьцяўленьне ленінскай нацыянальнай палітыкі.**

Вядучы нясупынную і бязьлітасную барацьбу супроць вялікадзяржаўнага шавінізму, як галоўнай небясьпекі, супроць контр-рэвалюцыйнага беларускага нацыянал-дэмакратызму і шавінізмаў іншых колераў,—саветы праз актыўнае правядзеньне ў жыцьцё мерапрыемстваў партыі і ўраду па нацыянальнай палітыцы будуць зьнішчаць рэшткі нацыянальнай абмежаванасьці, варожасьці, замкнутасьці і замацоўваць інтэрнацыянальнае аб'яднаньне працоўных усіх нацыянальнасьцяй для барацьбы за сацыялізм.

Абвастрэньне клясавай барацьбы ўнутры краіны Саветаў, пагрозы інтэрвэнцыі супроць краіны Саветаў з боку сусьветнай буржуазіі патрабуюць вялізарнай пільнасьці з боку саветаў. У адказ на контр-рэвалюцыйную дзейнасьць шкоднікаў Рамзіных, Лёсікаў, Ластоўскіх, лёкаяў сусьветнага капіталу, у адказ на пагрозы інтэрвэнцыі, саветы павінны з яшчэ большай пасьпяховасьцю разгортваць сацыялістычнае будаўніцтва рашуча выкарчоўваць карэньні капіталізму і павялічваць абароназдольнасьць краіны.

Для таго, каб саветы сапраўды забясьпечвалі правядзеньне ў жыцьцё генэральнай лініі партыі, трэба **ўзмацніць барацьбу супроць ухілаў ад лініі партыі**, супроць правага ўхілу, супроць „левых" загібаў, супроць права-„ляваццкага" блёку і прымірэнчых да іх адносін. Асабліва небясьпечным зьяўляецца правы ўхіл і права-апартуністычная практыка ў працы саветаў. З гэтае прычыны ня можа быць месца правым апартуністам і бяспрынцыпным прымірэнцам у кіруючых органах саветаў. Бязьлітасная барацьба супроць права-апартуністычнай практыкі ўзьніме ролю саветаў у практычным правядзеньні генэральнай лініі партыі ва ўсіх галінах сацыялістычнага будаўніцтва.

Шырока разгортваючы сацыялістычнае наступленьне па ўсім фронце, ачышчаючыся ад усіх апартуністычных і прымірэнчых элемэнтаў у складзе саветаў, вядучы рашучую і бязьлітасную барацьбу супроць контр-рэвалюцыйных, шкодніцкіх нацыянал-дэмакратычных элемэнтаў, як клясавых ворагаў пралетарыяту, саветы пад кіраўніцтвам кампартыі з гонарам будуць выконваць сваю важнейшую ролю органаў дыктатуры пралетарыяту, праводзячы ў жыцьцё рашуча і да канца генэральную лінію партыі.

Праца савецкага апарату цесна зьвязана з працай саветаў.

Савецкі апарат зьяўляецца выканаўцай дырэктыў партыі і ўраду. Гэта вымагае вялкай выразнасьці ў працы савецкага апарату, аднак, за мінулы час мы маем рад прыкладаў таго, як клясава-варожыя пралетарскай рэвалюцыі элемэнты, якія прасачыліся ў савецкі апарат, імкнуліся выкарыстаць свае становішча для контр-рэвалюцыйнай шкодніцкай работы.

XVI зьезд УсеКП(б), кажучы аб недахопах савецкага апарату, даў наступнае ўказаньне: „Безадказнасьць, чыноўніцкае самаздавальненьне, адсутнасьць сумленнага і дакладнага выкананьня дырэктыў партыі і ўраду зьяўляецца найбольш небясьпечным і злосным відам бюракратызму. Бязьлітасная барацьба з гэтым нецярпімым злом, абавязковае давядзеньне да канца праверкі выкананьня павінна стаць генэральнай устаноўкай у барацьбе з бюракратызмам". (Рэзалюцыя зьезду па справазд. ЦКК-РСІ).

**Трэба на працягу 1931 г. рашуча ачысьціць савецкі апарат ад усіх варожых, контр-рэвалюцыйных элемэнтаў**, трэба ўдасканаліць працу апарату, выкрываць і зьнішчаць праявы бюракратызму, безадказнасьці і чыноўніцкага самаздавальненьня. У БССР аднэй з важнейшых задач павінна быць барацьба супроць праяў у апараце вялікадзяржаўнага шавінізму, як галоўнай небясьпекі, супроць беларускага нацыянал-дэмакратызму, супроць шавінізмаў іншых колераў. Павінны быць ужыты рашучыя захады, каб поўнасьцю правесьці ў жыцьцё пастанову апошняга пленуму ЦК УсеКП(б): „Трэба падтрымаць і **ўсямерна разьвіваць кантроль рабочых і сялян зьнізу над працай дзяржапарату** (напрыклад, групавыя абсьледваньні сав. органаў пад кіраў-

ніцтвам РСІ, брыгады рабочых па азнаямленьні з работай устаноў) і новыя формы добраахвотнага ўдзелу рабочых у выкананьні дзяржаўнай працы (напр.: па міліцыі)".

Новыя формы працы ў выглядзе сацспаборніцтва, ударніцтва для лепшай пастаноўкі працы апарату, зьніжэньня адміністрацыйных выдаткаў, набліжэньня апарату да працоўных мас; **рашучае разгортваньне вакол працы савецкага апарату пралетарскай крытыкі і самакрытыкі і арганізацыя пастаяннай праверкі выкананьня савецкім апаратам дырэктыў партыі і ўраду**—вось тыя практычныя задачы, вырашэньне якіх будзе садзейнічаць паляпшэньню савецкага апарату.

Трэба **прасякнуць савецкі апарат моцнай пралетарскай праслойкай, забясьпечыць у апараце сталае пралетарскае кіраўніцтва** і праз усё гэта дабіцца ад савецкага апарату „сумленнага і дакладнага выкананьня дырэктыў партыі і ўраду" у справе сацыялістычнага будаўніцтва і выкананьня пяцігодкі за чатыры гады, у выкананьні задач трэцяга рашаючага году пяцігодкі.

А. Чарвякоў.

# Да 12-й гадавіны існаваньня БССР.

1-га студзеня 1931 году споўнілася 12 год з дню ўтварэньня і існаваньня Беларускай Сацыялістычнай Савецкай Рэспублікі.

6-я Паўночна-Заходняя Абласная канфэрэнцыя Камуністычнай партыі, першы зьезд КПБ, якая адбылася ў Смаленску 30-га сьнежня 1918 г. вынесла пастанову аб утварэньні незалежнай Беларускай Сацыялістычнай Савецкай Рэспублікі.

Пастановаю 1-га зьезду КПБ і маніфэстам часовага Ураду БССР аб абвяшчэньні незалежнай БССР беларускае нацыянальнае пытаньне было разьвязана раз і назаўсёды. Беларусь, якая на працягу стагодзьдзяў прыгняталася польскім, а потым расійскім вялікадзяржаўным шавінізмам, дзякуючы вялікай Кастрычнікавай рэвалюцыі стала вольнай Савецкай краінай, краінай дыктатуры пралетарыяту.

Да 12-годзьдзя свайго існаваньня Савецкая Беларусь пад кіраўніцтвам Камуністычнай партыі і пры дапамозе Саюзу ССР прыходзіць з вялізарнейшымі посьпехамі ва ўсіх галінах сацыялістычнага будаўніцтва.

Адна з галоўных прычын гэтых посьпехаў хаваецца раней усяго ў правільным вырашэньні Камуністычнай партыяй нацыянальнага пытаньня, у братэрскім збліжэньні працоўных усіх нацыянальнасьцяй, у зьнішчэньні міжнацыянальнай варожасьці.

Лепшым прыкладам ленінскага вырашэньня нацыянальнага пытаньня зьяўляецца факт двухразовага ўзбуйненьня БССР у межах Савецкага Саюзу. Савецкая ўлада паказала ўсяму сьвету, як можна і павінна на падставе дыктатуры пралетарыяту, нацыянальнай свабоды і братэрскага сужыцьця народаў мірным шляхам вырашаць усе тэрытарыяльныя пытаньні, невырашымыя ва ўмовах буржуазнага ладу і капіталістычных адносін без вайны.

Другім яскравым прыкладам вырашэньня нацыянальнага пытаньня савецкай уладой служыць той факт, што Саюз ССР аказвае сыстэматычную і даволі моцную дапамогу саюзным рэспублікам у справе ўздыму эканамічнага і культурнага ўзроўню ўсіх адсталых народаў.

Беларусь, як вядома, у параўнаньні з цэнтральнай прамысловай часткай б. царскай Расіі, была аднэй з найбольш адсталых краін.

### Буйны росквіт прамысловасьці.

Узяўшыся за аднаўленьне прамысловасьці параўнальна пазьней іншых рэспублік Сав. Саюзу, Савецкая Беларусь аднавіла даваенную прамысловасьць да 1926-27 г. і, стаўшы на шлях індустрыялізацыі краіны, шпаркімі і высокімі тэмпамі зусім зьмяніла характар народнае гаспадаркі Рэспублікі. Прамысловасьць у народнай гаспадарцы БССР набывае вядучую ролю.

Агромністы рост прамысловасьці БССР, прадугледжаны пяцігадовым плянам, падводзіць моцны сацыялістычны грунт пад усё далейшае пасьпяховае разьвіцьцё народнае гаспадаркі БССР. Капітальнае будаўніцтва па рэспубліканскай прамысловасьці ўзрасло з 16.2 м. р. у 1927-28 г. да 24.8 міл. руб. у 1928-29 г. і да 52.6 міл. руб. у 1929-30 г. На 1931 год запраектавана капітальнае будаўніцтва рэспубліканскай прамысловасьці да 109.5 міл. руб. Агуловая прадукцыя рэспубліканскай прамысловасьці ў 1927-28 г. складала 118 міл. руб., у 1928-29 г.—171 міл. руб. і ў 1929-30 г.—311 міл. руб. і ў 1931 г. па праекту павінна будзе скласьці 581,9 міл. руб. (бяз лесааб'яднаньня).

Разам з вялізарнейшым ростам прамысловасьці непарыўна павялічваецца і агульная колькасьць занятых у ёй рабочых: у 1927-28 г. іх было 27,9 тыс. чал. (у даваенны час па тэрыторыі сучаснай Беларусі налічвалася 20.000 рабочых), у 1928-29 г.—32,9 тыс. чалавек, у 1929-30 г.—43 тысячы. У 1931 годзе колькасьць рабочых павінна ўзрасьці па кантрольных лічбах да 65,6 тыс. чалавек. У працягу 1931 г. будзе пераведзена на сямігадзінны рабочы дзень каля 95 проц. рабочых занятых у рэспубліканскай прамысловасьці. Сыстэматычна ўзрастае заработная плата рабочых; на 1931 г. запраектавана павялічэньне зарплаты ў параўнаньні з 1930 г. на 8,6 проц. Вытворчасьць працы за апошнія 3 гады адпаведна ўзьнімалася: на 19,5 проц. ,на 25,6% і на 29,9%. На 1931 г. рост вытворчасьці працы праектуецца на 30,4 прац. (без тарфяной прамысловасьці).

Буйны росквіт прамысловасьці Беларусі праглынуў свабодныя рабочыя рукі і да гэтага часу зусім ліквідавана беспрацоўе. Пытаньне рабочых кадраў становіцца важнейшым пытаньнем парадку дню нашага сацыялістычнага будаўніцтва.

**Па шляху суцэльнай калектывізацыі.**

Шпаркія тэмпы індустрыялізацыі Беларусі вызначылі рашучы паварот асноўных мас сялянства ў бок сацыялізму, стварылі неабходныя ўмовы для сацыялістычнай рэканструкцыі сельскае гаспадаркі, для масавай калектывізацыі, для ўмацаваньня вытворчай змычкі паміж рабочай клясай і асноўнымі бядняцка-серадняцкімі масамі сялянства і рашучага наступу на капіталістычныя элемэнты гораду і вёскі. Савецкая Беларусь разам з усімі рэспублікамі Савецкага Саюзу стала на шлях суцэльнай калектывізацыі і ліквідацыі на гэтай базе кулацтва як клясы. У справе правядзеньня сацыялістычнай рэканструкцыі сельскае гаспадаркі Савецкая Беларусь сустрэлася з так званай „прышчэпаўшчынай“. Народным Камісарыятам Земляробства і яго органамі на мясцох скажалася палітыка партыі і ўраду, доўгі час праводзілася яўна кулацкая лінія і практыка ў сельскай гаспадарцы. Нават у апошнія гады замест рашучага курсу на шырокую калектывізацыю,—адзіны правільны шлях рэканструкцыі сельскае гаспадаркі, праводзілі хутарызацыю, арганізоўвалі карлікавыя пасёлкі і г. д. Гэта кулацкая палітыка была да карэньняў ускрыта і пад кіраўніцтвам камуністычнай партыі рашуча ліквідавана: практыка хутарызацыі заменена пасьпяховай масавай калектывізацыяй бядняцка-серадняцкіх гаспадарак.

Калектывізацыя ў Беларускай ССР, праводзімая пад непасрэдным кіраўніцтвам камуністычнай партыі, за апошні час дасягнула значных посьпехаў: больш 100 тысяч бядняцка-серадняцкіх гаспадарак, што складае каля 17 проц. усіх бядняцка-серадняцкіх гаспадарак БССР, ахоплены калектывізацыяй. Адначасова з гэтым пашыраюцца і ўзмацняюцца савецкія гаспадаркі. У працягу 1929-30 г., у параўнаньні з мінулым годам, займаемая савецкімі гаспадаркамі плошча павялічылася больш чым у тры разы і складае ў сучасны момант больш 300 тыс. гэктараў. Пасеўная плошча сацыялістычнага сэктару складае ўжо каля 20 проц. пасеўнае плошчы БССР. Аграмаджанае стада толькі за апошні год, у параўнаньні з мінулым годам, павялічылася: кароў з 20.900 да 120.000 галоў, сьвіньняў—з 7.000 да 71.000 галоў. Агуловая прадукцыя сацыялістычнага сэктару складае прыблізна 20—25 проц. усёй прадукцыі сельскае гаспадаркі ў БССР. Таварная прадукцыя сацыялістычнага сэктару дае звыш 30 проц. усіх загатовак па БССР.

Пры гэтым неабходна адзначыць той факт, што асабліва пасьпяхова праходзіць калектывізацыя бядняцка-серадняцкіх гаспадарак у нацыянальных польскіх, латыскіх, літоўскіх сельскіх саветах. У паселішчах нацменшасьцяй процант калектывізаваных бядняцка-серадняцкіх гаспадарак значна вышэй, чым сярэдні процант калектывізаваных гаспадарак па ўсёй БССР. Колькасьць гаспадарак яўрэйскай местачковай і гарадзкой беднаты ў калгасах за 1929-30 г. павялічылася амаль у два разы. Рост калектывізацыі сярод нацыянальных меншасьцей можна бачыць з наступных даных: уступіла ў калгасы палякаў—6116 гаспадарак, што ў сярэднім складае 17,2 проц., прычым у паасобных мясцох гэты процант узьнімаецца да 50. Агульная колькасьць польскіх калгасаў—86. Яўрэйскіх калгасаў маецца 103 і інтэрнацыянальных—313, з агульнай колькасьцю яўрэйскіх сямей каля 9.000—49.296 чалавек. Латыскае насельніцтва калектывізавана ўвогуле на 28,2 проц., а ў некаторых мясцох гэты процант узьнімаецца да 39. Літоўскае насельніцтва ў вялікіх паселішчах калектывізавана ад 21,8 проц. да 54,5 проц. У м. Сьмілавічах калектывізавана 63,3 проц. бядняцка-серадняцкіх гаспадарак татар. Ня гледзячы на штучна-прышчэпленую ў мінулым нацыянальнаю варожасьць, у калгасах вельмі добра ўжываюцца і добра вядуць калектыўную працу калгасьнікі розных нацыянальнасьцяй.

Праводзіцца машынізацыя сельскае гаспадаркі і ўжо да гэтага моманту ў БССР маецца 800 трактароў. Па бюджэту на 1931 г. асыгнавана 4,6 міл. руб. на завоз новых трактароў. Да вясны 1931 г. колькасьць машынатрактарных станцый павялічваецца да 20. Шпаркімі тэмпамі на новай тэхнічнай базе праводзіцца рашучая сацыялістычная рэканструкцыя сельскае гаспадаркі. **На падставе суцэльнай калектывізацыі ліквідуецца кулацтва як кляса і яго імкненьні і спробы спыніць сацыялістычнае будаўніцтва разьбіваюцца аб цьвёрдую генэральную лінію партыі і Ленінскага ЦК.**

**Будуем культуру нацыянальную па форме і сацыялістычную па зьместу.**

Беларусь, атрымаўшы магчымасьць прыступіць да сацыялістычнага будаўніцтва, да аднаўленьня і рэканструкцыі прамысловасьці, сельскае гаспадаркі, была адсталай ня толькі ў гэтых галінах але і ва ўсіх астатніх. Звыш 60 проц. насельніцтва БССР было няпісьменным, школ было мала, нацыянальных школ ня было, ня было на тэрыторыі Рэспублікі ніякіх вышэйшых навучальных установ. Войны і акупацыі разбурылі ўсялякія ачагі культуры. Пры такіх умовах БССР пачала працу на культурным фронце і, вядома, без сыстэматычнай дапамогі ад Ураду Саюзу ССР спэцыяльна на культурнае будаўніцтва, мы ня мелі-б тых вялізарнейшых вынікаў да сёньняшняга дню, якія ў нас маюцца. Так, напрыклад, да канца пяцігодкі Урад Саюзу ССР дае 50 мільёнаў рублёў на правядзеньне ўсеагульнага навучаньня. Пабудова будынкаў Беларускага Унівэрсытэту (каля 10 міл. рублёў) праведзена таксама за кошт саюзнага бюджэту. За кошт саюзнага бюджэту часткова аднесена будаўніцтва Сельска-Гаспадарчай Акадэміі, ВТНУ-аў і інш.

Якія маюцца канкрэтныя посьпехі ў Савецкай Беларусі ў галіне культурнага будаўніцтва? Раней за ўсё, як самы буйны посьпех, трэба адзначыць увядзеньне ўсеагульнага абавязковага навучаньня, у выніку якога да канца 1931 году павінна быць ліквідавана няпісьменнасьць сярод працоўнага насельніцтва Беларусі ва ўзросьце ад 12 да 45 год. Ажыцьцяўленьне ўсеагульнага навучаньня бязумоўна будзе спрыяць пасіленьню тэмпаў сацыялістычнага будаўніцтва, дасягненьню ў больш кароткі тэрмін больш значных посьпехаў у пабудове сацыялізму ў нашай краіне. Пры гэтым усеагульнае навучаньне праводзіцца на роднай мове працоўных усіх нацыянальнасьцяй. Колькасьць нацыянальных школ, што-год павялічваецца, прычым пры агульным росьце школ усіх нацыянальнасьцяй школы нацменшасьцяй у процантных адносінах растуць значна хутчэй росту беларускіх школ. Гэта адзін з фактараў уважлівых адносін Ураду

БССР да справы абслугоўваньня працоўнага насельніцтва нацменшасьцяй.

Для падрыхтоўкі кваліфікаваных тэхнікаў для гаспадарчага і культурнага будаўніцтва ёсьць звыш 30 тэхнікумаў, каля 40 прафэсыянальна-тэхнічных школ, каля 30 прафмайстэрняў, якія рыхтуюць кваліфікаваных рабочых для прамысловасьці і сельскае гаспадаркі БССР. Ёсьць 12 вышэйшых і спэцыяльных навучальных устаноў, у тым ліку Беларускі Дзяржаўны Унівэрсытэт, Беларуская Акадэмія Навук і Акадэмія сельскай і лясной гаспадаркі. Ёсьць два яўрэйскіх пэдагагічных тэхнікумы і адзін польскі. Пры Беларускім Унівэрсытэце на пэдагагічным факультэце арганізавана яўрэйскае аддзяленьне.

Кожная нацыянальнасьць мае бязумоўна вялікія дасягненьні і ў галіне разьвіцьця мастацтва.

Кожны раён забясьпечваецца кіно-перасоўкамі. Да агульнай культурна-асьветнай сеткі трэба дадаць звыш 500 хат-чытален, больш 100 народных дамоў, сотні рабочых клюбаў, чырвоных куткоў. У сталіцы Беларусі выходзяць 13 цэнтральных газэт (з 1-га студзеня 1931 г.—14), з якіх 6 нацыянальных (яўрэйскіх—3, расійскіх—1, літоўскіх—1, польскіх—1). Тыраж нацыянальных газэт на 1-е лістапада 1930 г. складае 61 тыс. экз. Тыраж усіх газэт на гэтую-ж дату складае 300.500 экз. Для абслугоўваньня раёнаў арганізаваны 32 раённых газэты. Павялічваецца лік выданьняў на нацыянальных мовах. За 8 месяцаў 1930 г. выдана 26 мільёнаў друкаваных аркушаў на беларускай мове ў той час, як за 5 папярэдніх год (1925-29 г.) выдана 57 мільёнаў друкаваных аркушаў на беларускай мове. За апошнія пяць год выдана на яўрэйскай мове 460 тыс. экз. кніг, на польскай—185 тыс., на літоўскай і латыскай—9 т., на расійскай—198 тыс.

Вось кароткі сухі пералік тых дасягненьняў, якія мае за мінулыя гады Савецкая Беларусь у галіне культуры.

### Саветы—праваднікі генэральнай лініі партыі.

Калі мы зьвернемся да органаў дыктатуры пралетарыяту—да саветаў, гэтых праваднікоў генэральнай лініі партыі, да органаў кіраўніцтва і паглядзім на іх арганізацыю і склад з пункту погляду ўцягненьня ў іх працу нацыянальных меншасьцяй, дык і тут мы атрымаем бліскучае пацьвярджэньне ажыцьцяўленьня ленінскай нацыянальнай палітыкі ў БССР. Канстытуцыя БССР (арт. 20), устанаўляе што „для больш поўнага і шырокага ўцягненьня працоўных нацыянальных меншасьцяй БССР у работу эканамічнага і сацыялістычнага будаўніцтва ў мясцох дзе працоўныя той альбо іншай нацыянальнасьці складаюць большасьць насельніцтва, арганізуюцца саветы, якія працуюць на мове гэтай нацыянальнасьці, і найбольш поўна ўлічваюць у сваёй працы нацыянальныя асаблівасьці. У адпаведнасьці з гэтым прынцыпам, пачынаючы з 1924 г. у БССР пачалі арганізоўвацца нацыянальныя саветы і іх колькасьць з кожным годам павялічвалася, дашоўшы ў сучасны момант да 74 нацыянальных саветаў розных нацыянальных меншасьцяй. У выніку арганізацыі нацыянальных саветаў на адпаведнай тэрыторыі прыметна шпаркае разьвіцьцё культурнага і гаспадарчага росту насельніцтва нацыянальных меншасьцяй. У нацыянальных саветах амаль цалкам выжыты нацыянальныя розьні і недарэчнасьці паміж паасобнымі нацыянальнасьцямі, разьвіваецца і паглыбляецца клясавая сьвядомасьць батрацкай, бядняцкай і серадняцкай часткі насельніцтва, узмацняецца вера да савецкай улады і яе мерапрыемстваў. Напрыклад, каапэрацыяй у нацсаветах ахоплена насельніцтва нацменшасьцяй да 100 проц.

Аднначасова с арганізацыяй нацсаветаў арганізаваны і нацыянальныя суды. Хоць заканадаўствам Ураду БССР права карыстаньня роднай мовай забясьпечана ва ўсіх установах і арганізацыях, аднак, для поўнага забясьпечаньня практычнага вырашэньня нацыянальнага пытаньня і ў гэтай галіне кіраўніцтва неабходна, каб усё справаводства і судовы разгляд спраў праходзілі таксама на зразумелай роднай мове. Для гэтага ў БССР маюцца спэцыяльныя судовыя нацыянальныя камеры народных судоў: яўрэйскіх—8, польскіх—2, латыскіх—1.

У справу дзяржаўнага кіраўніцтва, ў справу сацыялістычнага будаўніцтва

ўцягваюцца ў аднолькавай ступені рабочыя і працоўныя масы ўсіх нацыянальнасьцяй, якія насяляюць Савецкую Беларусь.

### Нацдэмы агентура імпэрыялізму.

Вялізарнейшыя тэмпы сацыялістычнага будаўніцтва, шырокі наступ сацыялізму на капіталістычныя элемэнты гораду і вёскі ліквідацыі кулацтва як клясы, на базе суцэльнай калектывізацыі, ажыцьцяўляюцца ва ўмовах абвостранай клясавай барацьбы. Побач з контр-рэвалюцыйнай дзейнасьцю капіталістычных элемэнтаў, буржуазных спэцыялістых накшталт Рамзіна і К-° на эканамічным фронце, наглядаецца актыўная скрытая і адкрытая дзейнасьць антыпралетарскіх, варожых рабочай клясе сіл, контр-рэвалюцыйных сіл на фронце ідэалёгічным, на фронце будаўніцтва нацыянальнай культуры па форме і пралетарскай па зьместу. У Беларускай ССР, як у нацыянальнай рэспублікі, барацьба на ідэалёгічным фронце набывае спэцыфічныя формы і праяўляецца ў вялікадзяржаўным шавінізме, беларускім контр-рэвалюцыйным нацыянал-дэмакратызме, шавінізме і нацыяналізме іншых нацый. Барацьба гэта накіравана супроць ленінскага вырашэньня нацыянальнага пытаньня, а значыць супроць дыктатуры пралетарыяту, супроць яго перадавога кіруючага атраду—камуністычнай партыі. Побач з галоўнай небясьпекай, якую прадстаўляе вялікадзяржаўны шавінізм, ва ўмовах Беларусі вялікую небясьпеку ўяўляе сабою беларускі контр-рэвалюцыйны нацыянал-дэмакратызм. Погляды нацыянал-дэмакратаў упаўне яскрава выкладзены ў органе беларускага буржуазнага нацыянальнага руху „Нашай Ніве", якая ў 1906 годзе (№ 1) дэкляруе: „Ня думайце, што мы жадаем служыць толькі альбо панам альбо мужыкам. Не, ніколі не! Мы будзем служыць усяму беларускаму народу". Гэты-ж орган у перадавіцы ў 1912 годзе (№ 1) пісаў, што „Мы яшчэ так нядаўна пачалі разьвіваць тое, у чым сіла і моц кожнай нацыі: сваю нацыянальную культуру. Мы яшчэ ня зусім асазналі, што ня гледзячы на ўсялякія нязгоды, спрэчкі і сваркі ўсе беларусы—гэта родныя браты, адна сям'я, што 9-ці мільённая маса раскіданых на вялікім абшары беларусоў—гэта адзін цэльны народ". У гэтых словах сказваецца ўся буржуазная антыпралетарская сутнасьць беларускіх нацыянал-дэмакратаў і поглядаў аб адзінстве нацый, якая вылілася ў контр-рэвалюцыйнай змове вярхушкі контр-рэвалюцыйных нацыянал-дэмакратаў.

Беларускія „бясклясавыя" нацыянал-дэмакраты арыентаваліся пры савецкай уладзе, пры дыктатуры пралетарыяту ў сваёй контр-рэвалюцыйнай дзейнасьці на капіталістычны Захад, у прыватнасьці на буржуазную Польшчу, праводзячы барацьбу супроць пралетарскай Масквы. Беларускі контр-рэвалюцыйны нацыянал-дэмакратызм стварае адзіны фронт з беларускім нацыянал-фашызмам Заходняй Беларусі (Луцкевіч, Астроўскі, Станкевіч і інш.). Клясавы твар беларускага нацыянал - дэмакратызму, яго апора на кулацтва яскрава выразіўся ў гэтак званай „прышчэпаўшчыне", у правядзеньні хутарскай кулацкай зямельнай палітыцы. Гэта палітыка імкнулася павярнуць курс разьвіцьця сельскае гаспадаркі з шляху сацыялістычнага, шляху калектывізацыі на шлях капіталістычнага разьвіцьця. Нацдэмакраты, працуючы ў дзяржаўных установах і арганізацыях БССР, сьвядома дзейнічалі ў адным напрамку з кандрацьцеўшчынай у пытаньнях сельскае гаспадаркі і тэмпах індустрыялізацыі краіны, у пытаньнях сацыялістычнай рэканструкцыі сельскай гаспадаркі. Пры непасрэдным удзеле нацдэмаў першыя праэкты пяцігадовага пляну разьвіцьця сельскай гаспадаркі яшчэ ў 1925 г. рабілі выразную ўстаноўку на разьвіцьцё індывідуальных гаспадарак запэўняючы, што бліжэйшыя пэрспэктывы аднаўленьня ўсяе сельскае гаспадаркі залежаць, галоўным чынам, ад індывідуальных сялянскіх гаспадарак. Па думцы гэтых гаспод, індустрыялізацыя краіны павінна ісьці за разьвіцьцём сельскае гаспадаркі, чаму ўсе дзяржаўныя мерапрыемствы павінны быць, на іх думцы, накіраваны раней усяго на разьвіцьцё сельскае гаспадаркі, прычым гаспадаркі індывідуальнай і ўжо пасьля гэтага—на разьвіцьцё прамысловасьці. Ня гледзячы на гэта, ня гледзячы на захаваную альбо адкрытую шкодніцкую

контр-рэвалюцыйную дзейнасьць нацдэмакратаў, Савецкая Беларусь пад кіраўніцтвам камуністычнай партыі стварыла даволі буйную прамысловасьць, шэраг новых фабрык і заводаў, стварыла Асінбуд—гэтую буйнейшую першую ў Беларусі электрастанцыю імя тав. Сталіна і забясьпечыла гэтым вядучую ролю прамысловасьці ва ўсёй народнай гаспадарцы БССР.

Зусім зразумела, што дзейнасьць беларускіх нацыянал-дэмакратаў прасякла таксама і ў навуковыя ўстановы БССР (Беларуская Акадэмія Навук, Акадэмія сельскае і лясное гаспадаркі Навуковыя Дасьледчыя Інстытуты, Дзяржаўны Унівэрсытэт і інш.) і кіруючы орган культурна-асьветнай працы—Наркамасьветы. У галіне аграрнай навукі, у галіне мовазнаўства, права, гісторыі, літаратуры, паэзіі і г. д. беларускія нацдэмакраты таксама мелі свой уплыў і пакінулі глыбокія сьляды сваёй дзейнасьці. Катэдры Унівэрсытэту былі шырока выкарыстаны нацдэмамі для прапаганды ў захаванай, але даволі празрыстай форме сваіх контр-рэвалюцыйных нацдэмаўскіх ідэй. Так, падрыхтоўвалася ў нашым тылу інтэрвэнцыя супроць БССР і супроць Савецкага Саюзу.

У свой час органамі АДПУ была ўскрыта падпольная контр-рэвалюцыйная работа нацдэмаў па падрыхтоўцы інтэрвэнцыі і вайны супроць Саюзу ССР. Беларускія нацдэмакраты, як аказалася, былі зьвязаны ня толькі з дзейнасьцю адзінадумнікаў і саратнікаў па чорнай працы ў Саюзе ССР, але і за мяжой. Прабраўшыся ў такія адказьнейшыя вучасткі працы па сацыялістычнаму будаўніцтву, як Наркамзем, НКАсьветы, Дзяржплян, Акадэмія Навук, Унівэрсытэт, Белдзяржвыдавецтва і г. д. Лёсік, Ластоўскі, Некрашэвіч і інш. здраднікі імкнуліся ўсімі мерамі і сродкамі затрымаць сацыялістычны рост краіны, тэмпы індустрыялізацыі, шырокі размах калектывізацыі, падрыхтаваць неабходныя ўмовы для зьнішчэньня савецкай улады, для замежнай капіталістычнай інтэрвэнцыі. Вось чаму барацьба з беларускім контр-рэвалюцыйным нацдэмакратызмам павінна быць глыбокай і бязьлітаснай.

## За ленінскую палітыку ў нацпытаньні.

Камуністычная партыя (бальшавікоў) Беларусі разам з усім пралетарыятам вяла і вядзе (асабліва востра ў апошнія два гады) рашучую барацьбу з усімі скажэньнямі тэорыі і практыкі ленінскай нацыянальнай палітыкі. На пленумах ЦК КП(б)Б на апошнім партыйным зьезде КП(б)Б з усёй бязьлітасьцю ўскрываліся і разьбіваліся погляды і дзеяньні „прышчэпаўшчыны“, беларускага нацыянал-дэмакратызму, вялікадзяржаўнага шавінізму і іх агентаў унутры партыі—апартуністаў усіх колераў.

З бальшавіцкай няпрымірымасьцю былі ўскрыты, даказаны і рашуча асуджаны погляды і памылкі адказьнейшых кіраўнікоў паасобных вучасткаў працы—Прышчэпава, Баліцкага, Алеся Адамовіча,*) Ігнатоўскага, Жылуновіча і інш. Асаблівае становішча якое займае Беларуская ССР, умовы барацьбы і сацыялістычнага будаўніцтва ў Беларусі абавязваюць нас пасьлядоўна і яшчэ больш рашуча весьці барацьбу за ажыцьцяўленьне ленінскай нацыянальнай палітыкі нашай партыі, за ўзмацненьне дыктатуры пралетарыяту, за баявыя тэмпы сацыялістычнага будаўніцтва і разьвіцьцё сацыялістычнай культуры.

Выяўленьне контр-рэвалюцыйнага твару беларускага нацыянал-дэмакратызму спрабуе выкарыстаць вялікадзяржаўны шавінізм у сваёй агітацыі, што, быццам нацдэмакратычныя вылазкі і праявы сьведчаць аб правале ўсёй палітыкі партыі і савецкай улады ў нацыянальным пытаньні. У гэтай сувязі асаблівую ўвагу павінен прыцягваць да сябе вялікадзяржаўны шавінізм, які на даным этапе зьяўляецца галоўнай небясьпекай. XVI зьезд УсеКП(б) у сваім рашэньні паказаў: „Зьезд адзначае, у сувязі з абвастрэньнем клясавага змаганьня ў краіне, актывізацыю ў шэрагах партыі нацыянальных ухілаў у бок вялікадзяржаўнага і мясцовага шавінізму. Галоўную небясьпеку на даным этапе становіць сабой вялікадзяржаўны ўхіл, які прабуе рэвізаваць асновы ленінскай нацыянальнай палітыкі і які пад сьцягам інтэрнацыяналізму прыкрывае імкненьні аджываючых клясаў панаваўшай раней

*) Прышчэпаў, Баліцкі і Алесь Адамовіч у свой час выключаны з шэрагаў КП(б)Б.

вялікарасійскай нацыі зьвярнуць сабе страчаныя прывілеі. Разам з гэтым актывізуецца ўхіл да мясцовага нацыяналізму які паслабляе адзінства народаў ССР і які грае на руку інтэрвэнцыі. Партыя павінна пасіліць барацьбу з абодвымі ўхіламі ў нацыянальным пытаньні і з прымірэнцтвам да іх узмацніўшы адначасова ўвагу да практычнага правядзеньня ленінскай нацыянальнай палітыкі, зьнішчэньня элемэнтаў нацыянальнага неравенства і шырокага разьвіцьця нацыянальных культур народаў Савецкага Саюзу".

Рашэньні партыйнага зьезду, прамова тав. Сталіна па нацыянальным пытаньні павінны быць наказам для кіраўніцтва і бязумоўнага выкананьня пры вырашэньні нацыянальнага пытаньня ў Беларусі, як на адказьнейшым вучастку Саюзу ССР.

Вялікадзяржаўны шавінізм у Беларусі за апошні час меў некалькі яскравых праяў. Напрыклад, яшчэ ў мінулым годзе праф. Шчапоцьеў, працаваўшы ў БССР 5 год, падаў заяву аб аслабаненьні яго ад абавязкаў прафэсара біалёгіі і заалёгіі бясхрыбэтных таму, што „надыходзячая беларусізацыя маёй катэдры, незнаёмства з беларускай мовай і немагчымасьць чытаць лекцыі на замежнай мове (хаця-б я яе і разумею)" не лаюць яму магчымасьці працаваць далей у Беларускім Дзяржаўным Унівэрсытэце. Праф. Афанасьеў, даючы друкаваць свой артыкул, піша ў рэдакцыю: „вельмі прашу мой артыкул надрукаваць на расійскай мове". Нічога дзіўнага няма ў тым, што пад уплывам такіх прафэсароў, адзін студэнт у ананімнай анкеце піша „на беларусізацыі сацыялізму не пабудуеш і няма чаго ёю асабліва займацца". Адзін выкладчык рабфаку Ценцюкоў у адказ на прапанову весьці свой прадмет на беларускай мове, адказаў, што „беларуская мова—штучная, гэта выдумка беларускіх шавіністых, да і сама Беларусь ёсьць „белая Русь", ёсьць Расія і ніякае асобнае мовы ня мае". Яшчэ шмат можна было-б прывесьці розных прыкладаў, якія яскрава сьведчаць, што вялікадзяржаўны шавінізм, які адбівае інтарэсы варожых эксплёататарскіх клясаў, інтарэсы клясаў панаваўшай раней нацыі зьяўляецца на даным этапе сапраўдна галоўнай небясьпекай.

Адначасова з праявамі вялікадзяржаўнага шавінізму і беларускага контр-рэвалюцыйнага нацдэмакратызму, мы наглядаем у Беларусі праявы таксама шавінізму яўрэйскага, польскага і інш. Гэтыя шавінізмы праяўляюцца галоўным чынам у нацыянальнай замкнутасьці, у імкненьні адмежавацца ад агульнай хвалі сацыялістычнага будаўніцтва, у затушаваньні клясавай барацьбы ўнутры данай нацыянальнасьці, ідэалізацыі дробнабуржуазных партый—Бунда, ППС і інш. Само сабой зразумела, што ўсе гэтыя праявы шавінізму і нацыяналізму, праявы антыпралетарскія і контр-рэвалюцыйныя, якія аб'ядноюцца ў агульнай барацьбе супроць дыктатуры пралетарыяту, у барацьбе за аднаўленьне капіталізму. Вось чаму, ажыцьцяўляючы ленінскую нацыянальную палітыку пад кіраўніцтвам камуністычнай партыі, Беларуская ССР змагаецца і будзе змагацца на нацыянальным фронце і наперад са ўсімі ўхіламі, са ўсімі антыпралетарскімі праявамі, з клясава-варожымі элемэнтамі, якія стаяць на шляху будаўніцтва сацыялізму, Беларуская ССР уцягвала і будзе ўцягваць і ў далейшым працоўных усіх нацыянальнасьцяй у сацыялістычнае будаўніцтва. Пралетарыят Беларусі будзе будаваць і разьвіваць культуру—нацыянальную па форме і пралетарскую па зьместу.

### Далейшы шлях БССР—шлях будаўніцтва сацыялізму.

Пры вялізарнейшай дапамозе Саюзу ССР, Савецкая Беларусь да XII гадавіны свайго існаваньня мае вялікія дасягненьні ва ўсіх галінах сацыялістычнага будаўніцтва, у тым ліку і ў галіне ленінскага вырашэньня нацыянальнага пытаньня. Пад кіраўніцтвам камуністычнай партыі (бальшавікоў) Беларусі, актыўнасьць рабочых мас, батрацтва, калгасьнікаў, беднаты і серадняков накіравана на забясьпечаньне бальшавіцкіх тэмпаў індустрыялізацыі, на разгортваньне і ўзмацненьне калектывізацыі і ліквідацыі на яе базе кулацтва як клясы, на выкананьне пяцігодкі ў чатыры гады, што забясьпечыць і ў далейшым пра-

вільнае практычнае вырашэньне нацыянальнага пытаньня.

У барацьбе за генэральную лінію нашай партыі і Ленінскага ЦК з правым ухілам, права-„лявацкім“ блёкам, з апартунізмам усіх відаў, з ухіламі і контррэвалюцыйнымі праявамі на нацыянальным фронце, БССР яшчэ больш узмацніцца палітычна, эканамічна і ў культурных адносінах, як перадавы аванпост Савецкага Саюзу, на межах з капіталістычным Захадам.

Далейшы шлях Беларускай Сацыялістычнай Савецкай Рэспублікі ёсьць шлях будаўніцтва сацыялізму ў нашай краіне пад кіраўніцтвам камуністычнай партыі і яе Ленінскага Цэнтральнага Камітэту.

А. Хацкевіч.

## На баявыя тэмпы работу камісій садзейнічаньня дзяржкрэдыту і ашчадсправе.

Справа мабілізацыі сродкаў у трэцім рашаючым годзе пяцігодкі набывае вельмі вялікае значэньне.

Пазыка „Пяцігодка ў чатыры гады“ і ашчадсправа ў комплексе пытаньняў мабілізацыі сродкаў займаюць значнае месца. Па пазыцы „Пяцігодка ў чатыры гады БССР першапачатковае заданьне выканала наогул, перавысіўшы плянавыя меркаваньні па групе рабочых і служачых, недавыканаўшы ў значнай ступені (12,7 проц.) па сялянскаму сэктару і па сэктару неарганізаванага насельніцтва. Прычынай невыкананьня заданьняў па сялянскаму сэктару зьяўляецца слабая работа раённых крэдытных установаў і райкамсодаў, якія ў многіх раёнах не мабілізавалі грамадзкасьці на выкананьне важнейшай задачы, не правялі глыбокай растлумачальнай работы сярод калгасьнікаў і наогул працоўнага сялянства, а сталі на права-апартуністычны самацёк.

Кампанія мабілізацыі сродкаў у асобным квартале прайшла нездавальняюча, а ў шмат мясцох зусім слаба. Раённыя арганізацыі не скарысталі гэтай кампаніі дзеля таго, каб увязаць мабілізацыю сродкаў з палітычна-гаспадарчымі кампаніямі гэтага пэрыяду, не ўвязалі гэтай кампаніі з выкананьнем прамфінпляну асобнага кварталу.

У гэтых раёнах, дзе плянавае заданьне выканана, ўвага далейшаму разгортваньню падпіскі на пазыку зьніжаецца і ў большасьці месц нічога ня робіцца для ахопу ўсіх працоўных пазыкай з тым, каб заданьне перавыканаць. Гэткія казённыя адносіны таксама нікуды ня варты.

Да гэтага часу ня ўсе рабочыя і служачыя ахоплены падпіскай; на вёсцы зроблена зусім мала ў гэтых адносінах, па неарганізаванаму сэктару ня ўсе саматужнікі ахоплены падпіскай на двухтыднёвы заробак, улічваючы ўсё гэта зусім правільным зьяўляецца павялічэньне плянавага заданьня па пазыцы да 20 мільёнаў рублёў.

**Неабходна перабудаваць усю працу камісій садзейнічаньня дзяржкрэдыту і ашчадсправе, паставіць іх на баявыя тэмпы.**

Раённыя камсоды павінны больш увагі і дапамогі аказваць нізавым камсодам. Усе камсоды павінны мабілізаваць грамадзкасьць на выкананьне фінансавага пляну трэцяга рашаючага году пяцігодкі.

Зусім дрэнна абстаіць справа з мабілізацыяй сродкаў ў ашчадкасы. Заданьне асобнага кварталу ашчадкасамі выканана толькі на 12 проц. Нават тыя раёны, якія добра праводзілі работу па распаўсюджваньні пазыкі, вельмі адстаюць па ашчадсправе. Гэта сьведчыць аб тым, што раённыя камсоды і фінансавыя ўстановы ня сумелі ўвязаць усяго комплексу мабілізацыі сродкаў, удараючыся толькі ў адзін бок. Справу мабілізацыі сродкаў у ашчадкасы таксама трэба паставіць па-баявому, з тым, каб у першым квартале гэтага году ня толькі выканаць плянавае квартальнае заданьне, але і навярстаць недавыкананьне асобнага кварталу.

У далейшай працы па распаўсюджваньню пазыкі і ашчадсправе неабходна рашуча змагацца як з праваапартуні-

стычным самацёкам, гэтак і з лявацкімі загібамі выражаючыміся ў давядзеньні заданьняў да асабага двара і г. д.

**Да гэтага часу амаль што не скарыстоўваюцца мэтады грамадзкага ўзьдзейнічаньня на кулацка-заможную частку вёскі ў справе распаўсюджваньня пазыкі.** У той час, як рабочая кляса, працоўнае сялянства актыўна ўдзельнічаюць ў выкананьні фінансавага пляну сацыялістычнага будаўніцтва, кулак хавае свае грошы і вядзе работу для падарваньня нашых фінансавых мерапрыемстваў.

Неабходна ня толькі абязшкодзіць кулака на гэтым вучастку, шляхам разгортваньня масавай растлумачальнай працы сярод працоўных, але і прымусіць яго шляхам грамадзкага ўзьдзейнічаньня набываць аблігацыі пазыкі, цьвёрда памятуючы пры гэтым, што гэтыя мерапрыемствы ні ў якой ступені не павінны закранаць серадняка.

Уся работа па выкананьню дадатковага заданьня па пазыцы „Пяцігодка ў чатыры гады“ павінна адбывацца пад лёзунгам выкананьня фінансавага пляну трэцяга рашаючага году пяцігодкі, цесна ўвязвацца з палітычна-гаспадарчымі кампаніямі, якія зараз адбываюцца.

Па сэктару рабочых і служачых дадатковая падпіска павінна ісьці, галоўным чынам, за кошт ахапленьня тых, якія да гэтага часу яшчэ не ахоплены падпіскай, за кошт новых рабочых, лік якіх расьце шпаркім тэмпам.

Па сэктару неарганізаванага насельніцтва неабходна ў першую чаргу ахапіць усіх членаў вытворчык арцеляй на суму ня менш двухтыднёвага заробку, а таксама праз ЖАКТ‘ы ахапіць падпіскай хатніх гаспадынь і іншае неарганізаванае насельніцтва.

Асабліва вялікую ўвагу неабходна зьвярнуць на сялянскі сэктар. У вёсцы за студзень і люты м-цы трэба забясьпечыць прадажу пазыкі на 3 з паловай мільёны руб. Неабходна павесьці шырокую растлумачальную работу сярод калгасьнікаў з тым, каб кожны калгасьнік падпісаўся на пазыку ня менш як на 15 дзён свайго заробку. Сярод працоўных адзінаасобнікаў павінен быць выканан лёзунг: ніводнага сялянскага двара без аблігацый „Пяцігодкі“.

**Рэалізацыя пазыкі на вёсцы павінна ісьці галоўным чынам за наяўны разьлік.**

Камісіі садзейнічаньня, прафарганізацыі павінны мабілізаваць усю грамадзкасьць з тым, каб перавыканаць плянавае заданьне, павінны глядзець за тым, каб падпіска сваечасова афармлялася крэдытнымі ўстановамі, а таксама за тым, каб узносы па пазыцы сваечасова адлічваліся і не затрымліваліся ў касах прадпрыемстваў, а паступалі ў фінорганы. У гэтай галіне на сёньняшні дзень маем прарыў: запазычанасьць па ўзносам па БССР складае звыш мільёна рублёў. Неабходна ня толькі ў бліжэйшы час зьліквідаваць запазычанасьць, але як галоўнейшую задачу паставіць—недапушчэньне да несваечасовага адлічваньня па ўзносах.

Камсоды таксама павінны ўдзесецярыць работу па мабілізацыі сродкаў у ашчадкасы і даць рашучы адпор клясаваму ворагу, які імкнецца падарваць давер‘е працоўных да ашчадкас.

Уся работа па распаўсюджваньню пазыкі і ашчадсправе павінна праходзіць пад лёзунгам сацспаборніцтва і ўдарніцтва.

Працоўныя масы, якія пад кіраўніцтвам пралетарыяту і яго камуністычнай партыі актыўна будуюць сацыялізм выканаюць фінансавы плян трэцяга году пяцігодкі і ў гэтым годзе скончаць пабудову фундамента сацыялізму.

Б. Вансоўскі.

**У ТРЭЦІМ РАШАЮЧЫМ годзе пяцігодкі, разгортваючы далейшае наступленьне на капіталістычныя элемэнты па ўсяму фронту сацыялістычнага будаўніцтва, завяршым пабудову фундаманту сацыялістычнай эканомікі.**

# Да другой калгаснай вясны.

Эканамічнае і палітычнае значэньне вясеньняй пасеўнай кампаніі 1931 году надзвычайна вялікае. Яно вызначаецца па першае тым, што яравы клін калгасаў будзе складзены у сярэднім ня менш 30—35 проц. агульнай пасеўнай плошчы БССР і, па другое, тым, што калгасны сэктар, як паказала практыка мінулага году ўжо ў 1931 годзе дасьць рабочай дзяржаве ня менш 40—45 проц. усей таварнай прадукцыі—сельска-гаспадарчага сырцу і прадуктаў.

Ажыцьцяўляючы пастановы XVI зьезду УсеКП(б) і XIII зьезду КП(б)Б аб сканчэньні калектывізацыі ў асноўным да канца пяцігодкі, перад усей партыйнай арганізацыяй, савецкімі і грамадзкімі органамі, калгасна-каапэрацыйнай сыстэмай стаіць задача—да веснавой сяўбы калектывізаваць ня менш 219.000 бядняцка-серадняцкіх двароў, а пасеўную плошчу ў калгасах давесьці да 1.373 тыс. гэкт.—да 30 проц. усей агульнай пасеўнай плошчы БССР.

На вопыце лепшых узораў каляктыўнага вядзеньня гаспадаркі значныя масы бядняцка-серадняцкага селянства ўпэўніваюцца ў пераважнасьці буйнай калякгыўнай гаспадаркі над дробнай індывідуальнай. Гэты пералом асноўных мас сялянства адбыўся, дзякуючы правільнаму правядзеньню генэральнай лініі нашай партыі ў барацьбе як з правым ухілам—галоўнай небясьпекай на даным этапе, так і „левымі" антысерадняцкімі перагібамі і прымірэнчымі адносінамі да ўхілаў, дзякуючы рашучаму выкарчоўваньню карэньняў кандрацьцеўшчыны і прышчэпаўшчыны.

Першая бальшавіцкая вясна стварыла ўмовы для разгортваньня далейшага масавага калгаснага руху. Важнейшая задача другой бальшавіцкай вясны—дабіцца далейшага разгортваньня саўгаснага і калгаснага будаўніцтва, арганізацыі новага калгаснага прыліву і замацаваньня ўжо маючыхся ў гэтай галіне посьпехаў.

Дзякуючы свaечасоваму і рашучаму спраўленьню перагібаў вясною 1930 г. мы маем у справе калектывізацыі вялікія дасягненьні, аднак, гэтыя дасягненьні як адзначае XIII зьезд нашай партыі,—былі-б значна большыя:

„Калі-б ня былі дапушчаны з боку шэрагу арганізацый памылкі і скрыўленьні лініі партыі ў справе калектывізацыі. Гэтыя памылкі выявіліся: у няправільных адносінах да серадняка, недаацэнцы саюзу з ім, ва ўжываньні прымусовай калектывізацыі, дапушчэньні адміністраваньня пры арганізацыі калгасаў, з прымяненьнем пагроз і рэпрэсій да сераднякоў, нежадаючых пакуль што ісьці ў калгасы, чым парушаўся ленінскі прынцып калектывізацыі, заснаваны на добраахвотнасьці; у прымусовым аграмаджаньні ўсяго і ўсяе (птушак, авечак, нетаварна-прадукцыйнай малочнай жывёлы) і ў пераскокваньні праз ніжэйшыя і сярэднія формы калгасаў да камун, ня маючы для гэтага неабходных умоў, а таксама ў беспадстаўным стварэньні „гігантаў", у дапушчэньні раскулачваньня паасобных сераднякоў і ў шэрагу выпадкаў пазбаўленьня іх выбарчых правоў, у безадказным павышэньні тэмпу калектывізацыі ў шэрагу акруг і раёнаў".

Зразумела, што добраахвотны прынцып калектывізацыі зусім не азначае, што мы павінны спадзявацца на самацёк. Апартуністычны сэнс лёзунгу аб самацёку даўно ўжо выкрыты партыяй і рашуча асуджан. Партыйныя ячэйкі на вёсцы, камсамольскія арганізацыі, прафсаюзы, Саветы, КСУ, каапэрацыя і калгасы павінны разгарнуць масавую палітычную работу сярод беднаты і серадняцтва, арганізуючы новы калгасны прыліў.

Бальшавіцкая практыка работы яскрава паказвае, што там дзе вядзецца належная праца сярод батрацтва і беднаты, масавая праца сярод сераднякоў, жанчын, моладзі, дзе кулаку і яго абаронцам даюць рашучы адпор, калгасны рух шырока разгортваецца.

Перадавымі раёнамі ў гэтых адносінах зьяўляецца Клімавіцкі, Бярэзінскі, Астрашыцка-Гарадзецкі, Бягомльскі, Самахвалавіцкі, Плешчаніцкі, Полацкі, Касьцюковіцкі, Слуцкі і шэраг іншых раёнаў. Многія раёны на працягу восені

правялі належную работу і дабіліся значных пасьпехаў па калектывізацыі і маюць процант калектывізаваных гаспадарак ужо вышэй 30. Звыш 30 раёнаў БССР калектывізаваны больш чым на 15 проц. Але ёсьць шмат раёнаў, якія значна адстаюць і ў якіх процант калектывізацыі менш 10.

Да гэтых раёнаў адносяцца: Гарадокскі, Межанскі, Сіроцінскі, Віцебскі, Бешанковіцкі, Багушэўскі, Дубровенскі, Копыльскі, Бялыніцкі, Чавускі, Чачавіцкі, Быхаўскі, Краснапольскі, Сьвіслацкі, Асіпавіцкі, Стара-Дарожскі, Бабруйскі, Старобінскі, Чачэрскі, Веткаўскі, Рэчыцкі, Гомельскі, Церахоўскі, Капаткевіцкі, Лельчыцкі.

Слабая калектывізацыя, а таксама незамацаваньне існуючых калгасаў і нават выпадкі распаду некаторых калгасаў і выхады з калгасу паасобных калгасьнікаў зьяўляецца вынікам адсутнічаньня належнай арганізацыйнай і масавай растлумачальнай працы, вынікам **права-апартуністычнай стаўкі на самацёк у калгасным руху, замкнутасьцю калгасаў,** неправядзеньнем справаздачнасьці калгасаў перад шырокімі масамі беднаты і серадлякоў некалгасьнікаў, недаацэнкі справы правільнага разьмеркаваньня ураджаю і прыбыткаў калгасаў па колькасьці і якасьці працы кожнага калгасьніка і слабай барацьбы з уплывам кулацтва.

Толькі рашуча вядучы барацьбу з практыкай правага апартунізму і „левымі“ перагібамі, толькі пры рашучым адпору кулацкім і падкулачным элемэнтам пры актыўнейшай рабоце ўсіх вясковых арганізацый—сельсаветаў, КСУ, каапэрацыі і саміх калгасьнікаў пад кіраўніцтвам партыйных ячэяк,—мы зможам пасьпяхова ажыцьцявіць вясною 1931 г. пастаўленыя перад калгасамі БССР наступныя вытворчыя задачы.

Яравы клін па калгасам БССР пашырыць ня менш як на 20 проц. Гэта мяркуецца правясьці за рахунак меліарацыі—2-3 проц., успашак сухадольных лугоў і выганаў—5-6 проц., распашак лясных расчыстак — 2-3 проц., **скарачэньня папару 10—12 проц. і зьнішчэньня межаў** і шляхоў непатрэбных пры абагуленьні селянскіх палёў — 1-2 проц.

Увесь яравы клін калгасаў вясною 1931 г. пры 30 проц. калектывізацыі ў сярэднім па БССР павінен будзе засеян на плошчы ня менш 822 тысяч гэктараў.

Трэба памятаваць, што для ўсяе народнай гаспадаркі важна ня толькі пасеяць наогул, але трэба ўдзяліць увагу тым культурам, якія зараз маюць найбольшае значэньне. Таму ў цэнтры ўвагі ўсей савецкай і калгаснай сыстэмы стаяць мерапрыемствы па пашырэньню і развіцьцю тэхнічных (лён, каноплі) і сіласных культур (кармавая база для вырашэньня жывёлагадоўчай і мясной праблем).

Належная ўвага павінна быць таксама аддана арганізацыі гародніцтва ў калгасах, каб хутчэй вырашыць праблему забясьпечаньня пралетарскіх цэнтраў гароднінай. Неабходна забясьпечыць павышэньне ўраджайнасьці збожжавых культур на 10 проц., тэхнічных—на 15 проц. і бульбы—на 10 проц. З гэтай мэтай трэба ачысьціць усё насеньне (62.749 тон) правесьці радковы пасеў на плошчы 300.000 гэкт., засеяць гатунковым насеньнем 158.000 гэкт., пратруціць 41.365 тон насеньня, падлажыць пад пасеў яравых культур 63.466 тон штучнага ўгнаеньня, затарфаваць 13.000 гэктараў.

Бяспрэчна, што посьпех веснавой сяўбы залежыць у першую чаргу ад цягавай сілы. Трэба пакончыць з нічым не ўгрунтаванымі думкамі, што „у калгасах амаль што коні непатрэбны, іх заменіў трактар“. Праўда з году ў год расьце трактарны парк калгасаў, але ў 1931 г. мы ня зможам усю конскую цягавую сілу замяніць трактарам. Вынікам неразуменьня гэтага зьяўляецца надзвычайна выбракоўка коняй у калгасах і нежаданьне гадаваць жарабят.

Такімі адносінамі да справы забясьпечаньня калгасаў цягавай сілай паасобныя работнікі граюць на руку кулаку, які агітуе за разбазарваньне і зьнішчэньне калгасных коняй і асабліва коняй бедняка і серадняка, які уступае ў калгас.

Трэба рашуча ўдарыць па кулацкай агітацыі і па ўсіх яго вольных і нявольных памочніках, змагаючыся за захаваньне кожнага працаздольнага каня, арганізуючы правільнае і поўнае ска-

рыстоўваньне наяўнага конскага складу шляхам стварэньня ў калгасах машына-конных брыгад.

Недаацэнка ролі і значэньня конскай цягавай сілы на даным этапе разьвіцьця калгаснага будаўніцтва, надзеі на забясьпечаньне сёлета ўсіх калгасаў мэханізаванай трактарнай сілай пагражаюць веснавой кампаніі, калі з гэтай недаацэнкай ня будзе весьціся рашучае і ўпартае змаганьне.

Трэба шырока растлумачыць наогул, што наяўнасьцю трактароў і апрацоўка трактарамі глебы павінна пацягнуць за сабою ня зьнішчэньне коняй, а перабудову сельскай гаспадаркі на большую вышыню інтэнсыўнага вядзеньня калякты́ўнай гаспадаркі. Трактар дае магчымасьць пры захаваньні коняй сеяць больш такія культуры, якія патрабуюць больш рабочай і цяглавой сілы і даюць большы гаспадарчы эфэкт (тэхнічныя культуры, карняплодаў, гародніна і г. д.).

Каб сваечасова і паўней скарыстаць штучныя ўгнаеньні, трэба унікаць лішніх накладных выдаткаў пры перавозках арганізуючы дастаўку ўгнаеньня непасрэдна калгасу чыгуначнай станцыі і забараніўшы перагрузку на раённыя склады.

Ужо зараз трэба разгарнуць шырокі збор попелу, прыцягнуўшы да ўдзелу у гэтай справе шырокую грамадзкасьць і галоўным чынам моладзь. Трэба кожны калгас прымацаваць да пэўнага прадпрыемства, жакту і г. д., сыстэматычна правяраючы, ці забірае ён сваечасова попел.

Адным з найбольш адказных вучасткаў кампаніі зьяўляецца арганізацыя насенных і страхавых фондаў у калгасах, калі з гэтым больш менш здавальняюча стаіць справа ў існуючых калгасах дык у новых калгасах стварэньне насенных фондаў знаходзіцца пад вялікай небясьпекай, кулак агітуе за разбазарваньне жывёлы і насеньня, спасылаючыся на тое, што „ў калгасе ўсё дадуць“. Трэба правесьці шырокую растлумачальную масавую работу, папярэджваючы кожнага бедняка і серадняка, які ўступае ў калякты́ў, што ён павінен даць у калгас такую колькасьць насеньня, якая прыпадае на яго долю для засеву калгаснага яравога кліну.

Кожны калгас ужо зараз павінен вызначыць разьмер свайго яравога кліну і тыя культуры, якімі гэты клін будзе засявацца. Неабходна скласьці вытворчы плян і на падставе яго засыпаць насенны фонд. На выпадак перасеву (пагібель азімых, град і інш.) трэба стварыць запасны насенны фонд у разьмеры 10—20 проц.

Усе насеньне павінна быць у бліжэйшыя 2 месяцы абавязкова прапушчана праз трыеры і збожжаачышчальныя машыны. Абавязкам раённых арганізацый зьяўляецца арганізацыя збожжаачышчальных абозаў і пракатных пунктаў.

Правільны пасеў значна павышае ўраджайнасьць. На жаль у 1931 г. нашы калгасы яшчэ ня змогуць сеяць выключна машынамі. У калгасах БССР ёсьць 3.712 сявярак. Да вясны мяркуецца завезьці каля 3.000 сявярак. Гэтай колькасьцю машын можна засеяць каля 30 тыс. гэктараў пры ўмове правільнага і поўнага скарыстаньня ўсіх сявярак. Трэба, каб кожны раён склаў канкрэтны плян сяўбы па калгасах і забясьпечыў работу кожнай сявяркі ня менш 16 гадз. у суткі. Кожная сявярка павінна за вясновы час засеяць ня менш 40—50 гэктараў.

У інтарэсах больш пасьпяховага правядзеньня вясновай сяўбы трэба неадкладна разгарнуць у калгасах шырокую падрыхтоўчую работу. Плян вясновай кампаніі павінен быць даведзен да кожнага калгасу, шырока абгаворан калгаснай масай. Трэба абвясьціць бязьлітаснае змаганьне ўсякім спробам абмяжавацца фармальнай пасылкай заданьняў і цыркуляраў, бюракратычных распараджэньняў. Райкалгассаюзы і сэкцыі пры райкаапсаюзах павінны забясьпечыць шырокую прапрацоўку плянаў у калгасах і на вытворчых нарадах пасобных галінах сельскай гаспадаркі, непасрэдна кіруючы гэтай справай. Кожны калгасьнік, кожная калгасьніца павінны добра ведаць тое месца і ўдзел, які яны прымуць у правядзеньні другой калгаснай вясны.

Сельскія саветы павінны сваю работу ўвязаць з усей падрыхтоўчай працай да другой калгаснай вясны.

Трэба дапамагчы калгасам сваечасова прапрацаваць вытворчыя пляны і падрыхтаваць усе мерапрыемствы да вясеньняй сельска-гаспадарчай кампаніі.

На сельска-гаспадарчых вытворчых нарадах пры сельсаветах, а таксама на пашыраных пленумах саміх сельскіх саветаў абавязкова заслухаць даклады ўсіх калгасаў аб ходзе падрыхтоўкі да вясеньняй сяўбы. Пажадана, каб і на агульных бядняцка-серадняцкіх сходах адзіналічнікаў, заўтрашніх калгасьнікаў, былі заслуханы і абгавораны такія-ж даклады лепшых калгасаў.

Гэта, бязумоўна, замацуе сувязь калгасьнікаў з адзіналічнікамі і будзе садзейнічаць новаму прыліву ў калгасы.

У парадку самакрытыкі трэба адзначыць, што найбольшым недахопам калгаснага будаўніцтва зьяўляецца тое, што мы ня умеем як сьлед арганізаваць працу ў калгасах. Адгэтуль, нявыхады на работу і нізкая па якасьці праца і безадказныя адносіны да каляктыўнай маемасьці, псаваньне машын і прылад, дрэнны догляд абагуленай жывёлы і г. д. і г. д. Кулак добра скарыстоўвае недахопы каляктыўнай працы ў сваёй агіднай агітацыі супроць каляктывізацыі. Трэба дабіцца чоткай і яскравай пастаноўкі працы у калгасах. Вытворчы плян калгасу неабходна давесьці да кожнага калгасьніка і кожнай калгасьніцы, каб кожны з іх добра ведаў, якую працу і як ён павінен выконваць. Рабочыя пляны па кожнай галіне гаспадаркі (жывёлагадоўля, рамонт прылад, ачыстка насеньня, пасеў і г. д.) абавязкова абгаварыць на вытворчых нарадах калгасьнікаў і паасобных брыгад.

Правільная растаноўка сваіх сіл па брыгадах, жорсткая крытыка ўсіх недахопаў кожнага будаўніцтва і працы кожнага калгасьніка, ужываньне мэтадаў соцспаборніцтва і ўдарніцтва, дысцыплінаванасьць калгаснай масы, рашучае змаганьне з кулацтвам і яго агентурай унутры калгасаў—падкулачнікамі і дэзарганізатарамі каляктыўнай працы, якія імкнуцца з сярэдзіны падарваць каляктыў, выразнае кіраўніцтва з боку партыйных і калгасных раённых арганізацый—усё гэта важнейшыя ўмовы посьпеху другой калгаснай вясны.

Надыходзячая вясеньняя кампанія будзе рашучай для замацаваньня посьпехаў сацыялістычнай рэканструкцыі сельскай гаспадаркі. Вялізарнейшыя посьпехі сацыялістычнай рэканструкцыі сельскай гаспадаркі, будаўніцтва машына-трактарных станцый, уцягненьне новых дзясяткаў і соцен тысяч беднякоў і серадьнякоў у калгасы выклікаюць шалёнае супраціўленьне кулацтва, спробы яго агентуры ў партыі—правых апартуністых і „левых" загібшчыкў—затармазіць калгасны рух і сацыялістычнае наступленьне на капіталістычныя элемэнты.

Недаацэнка супраціўленьня кулацтва і шкодніцкай працы яго агентуры ў партыі аслабляе актыўнасьць шырокіх мас, накіраваную на хутчэйшае ажыцьцяўленьне суцэльнай калектывізацыі і на яе базе ліквідацыі кулацтва, як клясы.

Асноўнай зарукай посьпеху другой калгаснай вясны зьяўляецца максымальная мабілізацыя шырокіх мас калгасьнікаў і адзінаасобнікаў—беднякоў і серадьнякоў на рашучае змаганьне з кулацтвам і яго абаронцамі.

Г. Самусевіч.

## Аб удзеле жанчын у вясеньняй пасеўнай кампаніі.

Ажыцьцяўленьне задач вясеньняй пасеўнай кампаніі, накіраваных на рашучае ўзмацненьне, пашырэньне і арганізацыю новых савецкіх, каляктыўных гаспадарак, на ўцягненьне бядняцка-серадняцкіх гаспадарак у вытворчыя сельска-гаспадарчыя аб'яднаньні, на пашырэньне пасеўнай плошчы і падняцьце ўраджайнасьці, на выкананьне ўсяго пляну вясеньняй пасеўнай кампаніі патрабуе мабілізацыі ўсіх сіл рабочых, батрацкіх, саўгасных, калгасных і бядняцка-серадняцкіх мас да правядзеньня бальшавіцкай вясны.

Пасьпяховае выкананьне задач вясеньняй пасеўнай кампаніі, разгортваньне калектывізацыі, правядзеньне суцэльнай калектывізацыі і ліквідацыі на гэтай аснове кулацтва як клясы, у значнай меры залежаць ад масавага ўдзелу батрачак, бяднячак, калгасьніц і серад-

нячак ва ўсіх мерапрыемствах па праўдзеньню вясновай сяўбы.

Вялізарныя задачы вясеньняй пасеўнай кампаніі па давядзеньню плошчы пасеваў сацыялістычнага сэктару да 37 проц. ўсяго яравога кліну БССР патрабуюць, каб уся работа па падрыхтоўцы да вясеньняй пасеўнай кампаніі была шчыльна ўвязана з разгорнутай масавай работай па ўцягненьню ў калгасы новых пластоў бядняцка-серадняцкіх мас.

Пад уплывам кулацкай агітацыі адсталыя масы сялянак часам адыгрываюць адмоўную ролю ў справе калектывізацыі, таму разгортваньне масавай работ сярод працоўных сялянак да іх удзелу ў вясеньняй пасеўнай кампаніі, асабліва ў справе калектывізацыі сельскай гаспадаркі зьяўляецца першачарговай задачай партыйных, савецкіх і грамадзкіх арганізацый.

У рабоце сярод працоўных сялянак адзінаасобніц неабходна ў большай ступені прыцягваць актыў калгасьніц. Неабходна перад сялянкамі адзінаасобніцамі асьвятліць пераважнасьць эканамічнага і бытавога становішча калгасьніц. Неабходна, каб у справаздачах калгасаў перад адзінаасобнікамі былі з усёй яскравасьцю асьветлены пытаньні працы і быту калгасьніц, а таксама дасягненьні і далейшыя перспэктывы, якія мы маем па разьвіцьцю бытавых установу у калгасах. На масавых сходах сялянак адзінаасобніц, побач з абгаварэньнем плянаў вясеньняй сяўбы, неабходна практыкаваць справаздачы калгасных, саўгасных ясьляў, дзіцячых садоў і іншых бытавых устаноў калгасаў. Калгасьніцы-актывісткі, якія ўсьвядомілі, што калектывізацыя ёсьць адзіны шлях уздыму сельскай гаспадаркі, павінны быць лепшымі агітатарамі за калектывізацыю. Яны на практычных прыкладах працы і быту ў калгасе змогуць даказаць, сялянам, што калектывізацыя зьяўляецца адзіным шляхам аслабаненьня сялянак ад бытавога прыгнечаньня. Таму неабходна больш прыцягваць калгасьніц актывістак да ўдзелу ў вярбовачных камісіях і ініцыятыўных групах па арганізацыі новых калгасаў.

Ва ўсёй рабоце па калектывізацыі мы недастаткова прыцягваем батрачак. Па зьвесткам на 1/X-1930 г. мы маем у калгасах толькі 28 проц. усяго ліку батрачак. Батрачкі, якія на сабе перанесьлі эксплёатацыю кулацтва, пры адпаведнай рабоце сярод іх па згуртаваньню іх навакол калектывізацыі, зьявяцца лепшымі агітатарамі за калектывізацыю супроць кулацтва. У некаторых калгасах яшчэ да гэтага часу наглядаецца нежаданьне прыняць у калгасы батрачак і многадзетных бядначак, неабходна гэтыя шкодныя настроі рашуча выкараняць. Раённым бытавым камітэтам і сэкцыям саветаў правесьці сталы вучот батрачак і бядначак адзінаасобніц, паставіўшы мэтай іх поўнае ўцягненьне ў калгасы, а таксама большае ўцягненьне уступіўшых у калгасы бядначак і батрачак ў працу груп беднаты. Дзеля набліжэньня бядначак да калгасаў арганізаваць у вясеньнюю пасеўную кампанію дапамогу з боку калгасаў бядначкам адзінаасобніцам.

Раённыя бытавыя камітэты і сэкцыі павінны правесьці праверку работы па масаваму каапэраваньню сялянак у вытворчыя віды сельска-гаспадарчых таварыстваў, становішча вылучэньня іх у кіруючыя органы с.-г. каапэрацыі. Тых жа бядначак і серадначак адзінаасобніц, якія па якім небудзь прычынам ня ўступяць у калгасы, каапэраваць у гэтую вясеньнюю пасеўную кампанію ў сельска-гаспадарчыя вытворчыя аб'яднаньні, асабліва ў малочныя, садова-гародныя і ільнаводныя.

Ажыцьцяўленьне задач пашырэньня пасеўнай плошчы, пашырэньня кармовай базы высоўвае неабходнасьць, каб актыў калгасьніц, актыў адзінаасобніц, дэлегаткі, члены савету жанчыны ўзялі на сябе абавязак практычнага правядзеньня ў жыцьцё пасеўных плянаў сельскіх саветаў, як у сваёй гаспадарцы, так і ў акаляючых сялянак, шляхам высоўваньня сустрэчных пасеўных плянаў ў тых галінах, дзе пераважае жаночая праца пасеў карняплодаў, гародніцтва, ільнаводзтва. Неабходна арганізаваць ударныя брыгады з актыву калгасьніц, адзінаасобніц па актыўнаму ўдзелу іх у стварэньні насенных фондаў, ачыстка насеньня, збору попелу і г. д.

Бытавыя камітэты, а таксама сэкцыі і культбытавыя камісіі калгасаў застаўшыйся час да палявых работ павінны

ўсямерна скарыстаць па ліквідацыі агра-няпісьменнасьці сярод калгасьніц, членаў саветаў жанчын праз заслухоўваньне дакладаў аграномаў, правядзеньне гутарак і чытак агранамічнай літаратуры, асабліва па галінах гародніцтва, апрацоўкі ільну, разьвіцьця карнеплодаў і г. д.

Ужо зараз бытавыя камітэты і сэкцыі павінны падрыхтавацца да адчыненьня к вясеньняму севу бытавых устаноў: ясьляў, пляцовак, каб забясьпечыць актыўны ўдзел жанчын у правядзеньні пасеўнай кампаніі.

**Майзіт.**

---

## Задачы гарсаветаў у забясьпечаньні рабочых.

Магутны размах сацыялістычнага будаўніцтва нашай краіны, неабмяжаваная адданасьць рабочай клясы сваіх сіл на выкананьне заданьняў пяцігадовага пляну сацыялістычнага будаўніцтва ў чатыры гады, праз разгортваньне сацспаборніцтва і ўдарніцтва, барацьба за якасьць прадукцыі, падвышэньне вытворчасьці, уцягненьне новых мільёнаў у вытворчасьць у тым ліку жонак рабочых патрабуюць далейшага разгортваньня і значнага палепшаньня забясьпечаньня рабочых.

Разгортваньне сеткі зачыненых разьмеркавацеляў, сталовых і т. п. у значнай меры залежыць ад ініцыятывы, дапамогі і кіраўніцтва гарадзкіх саветаў—у гэтым адзін з асноўных элемэнтаў павароту саветаў тварам да вытворчасьці, да ўдарніцтва, да абслугоўваньня патрэб сацыялістычнага будаўніцтва.

Ня гледзячы на тое, што ў рашэньнях 16 зьезду УсеКП(б) і ў адозве ЦК УсеКП(б) ад 3 верасьня яскрава адзначана аб неабходнасьці рашучага пералому ў рабочым забясьпечаньні, якое адыгрывае рашучую ролю ў выкананьні прамфінплянаў, неабходна адзначыць, што гэты перелом у пэўнай меры ў рабоце гарсаветаў не наступіў, пытаньне рабочага забясьпечаньня яшчэ не заняло належнага месца.

Пры правядзеньні спэцыяльнага абсьледваньня некаторых Гарсаветаў (Бабруйскі, Гомельскі), выяўлена, што гарадзкія саветы такое важнае палітычнае пытаньне, як рабочае забясьпечаньне ўпусьцілі з віду, у выніку чаго ў гэтых гарадох рабочае забясьпечаньне на справе абстаіць надзвычайна дрэнна, мае шэраг недарэчнасьцяў, а ў некаторых выпадках нават і сарвана.

Так напрыклад у гор. Бабруйску зачыненыя разьмеркавацелі існуюць толькі на паперы. Там адчынены 3 разьмеркавацелі, але яны раскіданы па 9 маленькіх ларках на камбінаце і 1 у горадзе і вядома правільна паставіць работу гэтых разьмяркавацеляў немагчыма.

Грамадзкае харчаваньне пастаўлена надзвычайна дрэнна, у сталовых ствараюцца кожны дзень вялікія чаргі, безканечная таўкатня і скандалы каля касы, а ў рабочай сталоўцы на дрэваапрацовачным камбінаце рабочыя стаяць у чарзе па гадзіне і больш у лепшым выпадку, а то і зусім застаюцца без абеду.

Такая пастаноўка грамадзкага харчаваньня адбіваецца на выкананьні прамфінпляну, выклікае прастоі і г. д.

Загатоўка гародніны праходзіла надзвычайна марудна, на час абьследаваньня ў горадзе Бабруйску было загатавана каля 20 проц. усёй патрэбнасьці, а ў гор. Гомелі каля 12 проц.

Пабудова гародніна-хавальнікаў праводзіцца без усялякіх эканамічных разьлікаў, дарагія, без усялякага забясьпечаньня хаваньня гародніны ў зімовы час.

Будаўніцтва і арганізацыя прыгарадных гаспадарак знаходзіцца ў надзвычайна дрэнным становішчы і, як выяўлена, у Бабруйску будаўніцтва малочнай фермы амаль сарвана; цэлае лета складаліся пляны гэтага будаўніцтва, а пачатак пабудовы малочнай фермы атрымаў свае афармленьне толькі 1 верасьня, у выніку чаго 300 кароў стаялі пад дажджом і скарацілі ўдой малака на 50 проц.

Бульба-хавальнік у Бабруйску на сьвінаадкормачным пункце пабудаваны без усялякіх досьледаў, у выніку чаго ў гэ-

тым хавальніку стаіць вада і хаваць бульбу не магчыма.

Такіх прыкладаў можна прывесьці шмат, такое становішча наглядаецца амаль ва ўсіх гарадох, а Гарсаветы з свайго боку такому важнаму палітыннаму пытаньню не ўдзеляюць амаль што ні якай увагі. Сэкцыі Гарсавету амаль пытаньнямі рабочага забясьпечаньня не займаюцца, а калі і займаюцца, то рашэньні іх у жыцьцё не праводзьцца, бо з боку Прэзыдыуму Гарсаветаў маецца недаацэнка важнасьці пытаньня рабочага забясьпечаньня.

Гэтыя прыклады гавораць аб тым, што Гарсаветы не змаглі ў сваей практычнай дзейнасьці ажыцьцявіць дырэктыў партыі і Ураду ў правільным вырашэньні пытаньня рабочага забясьпечаньня.

Арганізацыя прыгарадных гаспадарак праходзіць надзвычайна марудна, гэта сьведчыць аб недацэнцы з боку Гарсаветаў усей важнасьці прыгарадных гаспадарак у справе палепшаньня рабочага забясьпечаньня.

Адным з буйнейшых недахопаў у рабоце Гарсаветаў у галіне рабочага забяспечаньня зьяўляецца слабае кіраўніцтва і мабілізацыя працоўных мас вакол задач па палепшаньні рабочага забясьпечаньня, рабочага кантролю над каапэрацыяй па клясаваму і правільнаму разьмяркаваньню прадуктаў і прамтавараў, барацьбы з чаргамі ў крамах, па наладжваньню грамадзкага харчаваньня, па арганізацыі цэхаў харчаваньня па прадпрыемствах і г. д.

Трэці рашаючы год пяцігодкі які павінен замацаваць у гэтым годзе пабудову фундамэнту сацыялістычнай эканомікі патрабуе ад гарсаветаў прыняцьця рашучых мер па палепшаньні рабочага забясьпечаньня, стаць на чале барацьбы рабочых за палепшаньне рабочага забясьпечаньня, за арганізацыю цэхаў—харчаваньня па прадпрыемствах, па далейшаму разгортваньню зачыненых разьмеркавацеляў, сталовых, барацьбы з злоўжываньнямі і крадзяжом у каапэрацыйным апараце і г. д.

Маючы на ўвазе, што арганізацыя справы снабжэньня рабочых мае важнейшае значэньне ў выкананьні прамфінпляну Гарадзкія саветы ў барацьбе за выкананьне прамфінпляну, за якасныя і колькасныя паказчыкі вытворчасьці на заводах і фабрыках павінны мабілізаваць рабочыя масы, увесь савецкі актыў для ажыцьцяўленьня рабочага кантролю над каапэрацыяй, уцягваючы ў работу па канкрэтнаму вырашэньню задач рабочага забясьпечаньня членаў Гарсавету, дэпутацкія групы па прадпрыемствах, сэкцыі гарсаветаў, асабліва гэта пытаньне павінна быць завострана ў час правядзеньня справаздачна-перавыбарчай кампаніі і знайсьці свой канкрэтны адбітак у наказах гарсаветам.

Толькі пры актывізацыі працоўных вакол пытаньняў рабочага забясьпечаньня, пры масавым уцягненяні рабочых мас і савецкага актыву ў вырашэнне канкрэтных задач рабочага забясьпечаньня гарсаветы змогуць найбольш правільна і поўна вырашаць гэтыя пытаньні, ствараючы гэтым самым умовы пасьпяховага выкананьня прамфінпляну і пяцігодкі ў чатыры гады.

**І. Русовіч.**

## Правядзеньне гаспадарча-палітычных кампаній у Азарыцкім раёне.

Палітычна-гаспадарчыя кампаніі, якія зараз праводзяцца на вёсцы, у першую чаргу павінны забясьпечваць пасьпяховае дасягненьне асноўнай мэты—рэканструкцыі сельскай гаспадаркі на базе суцэльнай калектывізацыі.

Між тым, у Азарыцкім раёне дасягненьне гэтай мэты па некаторых гаспадарча-палітычных кампаніях не забясьпечана. Па паасобных кампаніях маецца ня толькі напрамак у бок забясьпечаньня гэтага дасягненьня, а наадварот.

Вось як у раёне праламляюцца дырэктывы партыі аб хлебазагатоўках, якія кажуць, што хлебазагатоўчая кампанія гэтага году павінна зьявіцца фактарам новага ўздыму прыліву ў калгасы мільёнаў сялянскіх гаспадарак.

Пры наяўнасьці ў раёне 14 проц. па ўдзельнай вазе пасеўнае плошчы пад калгасамі ўдзел калгасаў у хлебазагатоўках давездзен да 32 проц., а па бульбазагатоўках да 39 проц. У выніку нормы здачы па бульбазагатоўках у калгасах складаюць 23 проц. агульнага валавога збору пры 9 проц. па індывідуальнаму сэктару, а па хлебазагатоўках 11,5 проц. да агульнага валавога збору збожжа пры 4,5% па індывідуальным сэктары.

Згодна цьвёрдых дырэктыў у Азарыцкім раёне норма здачы па хлебазагатоўках у парадку кантрактацыйных умоў ня можа перавышаць 4 проц. ад валавога збору збожжа. Гэта норма наперакор яснай дырэктыве давездзена да 6,2 проц., гэта значыць павялічана на 2,2 проц. Апрача таго дадзеная кантрольная лічба для выкананьня ў парадку загатовак таварных лішкаў ад калгасьнікаў, якая складае 5,3 проц. агульнага валавога збору ўсяго збожжа ў калгасах, раённымі арганізацыямі зроблена абавязковай нормай для калгасаў, а кантрактацыя, бачыце, гэта справа добраахвотная (тлумачэньне старшыні РВК) і таму ніякага дачыненьня да загатовак ня мае. Яна павінна быць здадзена як кантрактацыя, а не як хлебазагатоўкі.

Такая пастаноўка пытаньня ў хлебазагатоўках давяла да таго, што некаторыя калгасы павінны здаць у парадку абавязковай здачы каля 30-35 проц. усяго валавога збору збожжа і да 50 проц. збору бульбы.

Дапушчэньне такога ляпсуса раённымі ўстановамі тлумачыцца тым, што кантрольныя лічбы дадзены былі акруговымі ўстановамі і яны да іх (катрольных лічбаў) ніякага дачыненьня ня мелі.

Ці ня ёсьць гэта самы горшы від апартунізму, які ў мэтах апраўданьня дапушчанага галавацяпства з боку раённых устаноў, накіроўваецца ў бок дыскрэтацыі вышэйшых органаў?

Трэба быць зусім няпісьменным, каб ня ведаць таго, што ўсе кантрольныя лічбы вышэйшымі ўстановамі складаюцца на падставе паказчыкаў з мест.

Замест прызнаньня сапраўднай прычыны, па якой дапушчан ляпсус гэта неперазаключэньне кантракцыйных умоў з калгасамі пасьля адліву з іх значнай колькасьці гаспадарак, з прычыны чаго ў калгасах аказалася плошча пасеву закантрактаванай значна большай нават за фактычна засеяную і замест выпраўленьня гэтага ляпсуса раённыя ўстановы пачынаюць займацца вышуканьнем розных „аб'ектыўных“ прычын для апраўданьня сябе і тым самым яшчэ больш паглыбляць дапушчаныя памылкі, кампрамэнтуючы калгасы перад некалгасьнікамі ў той час, калі сапраўды калгасы ў большасьці гэтага не заслугоўваюць, бо яны ўсё-ж такі па раёну ідуць уперадзе за індывідуальны сэктар ва ўсіх відах загатовак.

Вось вельмі выразны прыклад. Калгасы раёну, выканаўшы дадзены ім галавацяпскі плян (па вестках на 10.XII) па хлебазагатоўках толькі на 49 проц. і па бульбазагатоўках на 65 проц., здалі дзяржаве 5,7 проц. усяго валавога збору збожжа і 15,1 проц. усяго збору бульбы.

Па індывідуальнаму-ж сэктару пры выкананьні гэтага пляну, за той жа тэрмін па хлебазагатоўках на 86,3 проц. і бульбазагатоўках на 92 проц., загатавана ўсяго толькі 3,9 проц. валавога збору збожжа (замест 5,7 у калгасах) і па бульбазагатоўках 8,6 проц. валавога збору (замест 15,1 проц. у калгасах).

Адгэтуль нельга рабіць вываду, што калгасы і асабліва, паасобныя калгасьнікі, надалей ужо не павінны здаваць дзяржаве свае таварныя лішкі. Яны таксама і на далейшы час, выконваючы лёзунг партыі „ніводнага фунта хлеба прыватніку“, павінны ўсе свае таварныя лішкі хлеба здаваць дзяржаве.

Зьяўляючыся ў гэтым пытаньні застрэльшчыкамі, калгасы і калгасьнікі павінны ўзяць на грамадзкі буксір індывідуальны сэктар па здачы дзяржаве таварных лішкаў.

Але разам з гэтым раённым арганізацыям патрэбна з гэтага зрабіць вывад, што ў хлебазагатоўках дапушчана пасла бленьне кулацка-заможным элемэнтам вёскі за кошт калгасаў і гэта паслабленьне патрэбна выправіць у самым тэрміновым парадку.

Патрэбна даць самы рашучы адпор кулацкай агітацыі, накіраванай у бок зрыву загатовак і ўсім тым, хто забывае, што хлебазагатоўкі павінны ...

віцца новым стымулам масавага прыліву ў калгасы мільёнаў бядняцка-серадняцкіх гаспадарак.

### Няўвязка дырэктыў Цэнтральных устаноў.

Разам з гэтым значную частку віны за дапушчаныя ў раёне недакладнасьці па хлеба і бульбазагатоўках патрэбна аднесьці і на Наркамгандаль, які, даючы дырэктывы аб хлеба і бульбазагатоўках, ня даў яснай устаноўкі аб тым, як павінны вытварацца хлеба і бульбазагатоўкі паасобна па калгасах і індывідуальнаму сэктару.

Таксама ня дадзена сталая ўстаноўка і аб кантрактацыі. Невядома ці ўваходзіць яна ў кантрольныя лічбы, вызначаныя Наркамгандлем для паасобных раёнаў, ці не ўваходзіць, а здымаецца звыш кантрольных заданьняў Наркамгандлю.

Па дырэктывах Белкалгасцэнтру кантрактацыя ўваходзіць у кантрольныя лічбы, вызначаныя Наркамгандлем, а дырэктывы Наркамгандлю, па якой-та выпадковасьці, аб кантрактацыі амаль зусім не ўпамянулі.

Як вынік з гэтага места, атрымаўшы неўвязаныя дырэктывы, кожны па свойму вырашаў гэтую справу, дапускаючы перагібы і недакладнасьці ў той, або ў іншы бок і ў першую чаргу гэтыя перагібы дапушчаны ў бок вызначэньня для калгасаў большых кантрольных паказчыкаў чым індывідуальнаму сэктару, гэта значыцца ў бок найменшага супрацiўленьня.

### Калгаснае будаўніцтва.

Калгаснае будаўніцтва ў раёне, ня будучы забясьпечана належным кіраўніцтвам з боку раённых устаноў і арганізацый, пушчана на самацёк. Па цэламу шэрагу калгасаў наглядаецца безгаспадарчасьць, адсутнасьць працдысцыпліны, рвацкія настроі, разбазарваньне маемасьці і г. д. Арганізацыйная работа амаль што ва ўсіх калгасах не наладжана.

Разьмеркаваньне ўраджаю на 20/XII 1930 году вытварана толькі ў 11 самых дробных калгасах, а ў астатніх 13 калгасах да гэтага разьмеркаваньня нават ня прыступлена.

Пытаньне жывёлагадоўлі не зьяўляецца пытаньнем першачарговай важнасьці, з прычыны чаго ў раёне наглядаецца драпежніцкае зьнішчэньне жывёлы, і асабліва цягавай сілы, якое прымае ў некаторых калгасах пагражаючы характар. Жывёла, якая закупляецца кааперацыйнымі арганізацыямі па мясазагатоўках часта ня корміцца даволі значны час, ад чаго яна падае ў вазе і г. д.

Будаўніцтва сьвінарнікаў у спэцыялізаваных гаспадарках сарвана зусім. Крэдыты, вызначаныя на гэтую справу ў суме 34.000 рублёў, выкарыстаны не па прамому прызначэньню. Укамплектаваньне сьвінаматкамі на 20/XII-30 г. у спэцыялізаваных гаспадарках вытварана толькі на 45 проц.

Плян укамплектаваньня малочных гаспадарак выкананы толькі на 74 проц.

### Праца з беднатою.

Работа з беднатой у раёне не наладжана і бедната не арганізавана. Групы бедняты пры сельсаветах і КСУ, існуючы фармальна, як кажуць, на паперы, ніякай работы не праводзяць. Групы бедняты пры большасьці калгасаў зусім не арганізаваны.

Амаль што за цэлы год у раёне было склікана толькі дзьве канфэрэнцыі груп бедняты. Як вынік частка бедняты пад уплывам кулацкай агітацыі зьяўляецца выявіцелямі думкі апошніх, выступаючы часта на сходах супроць мерапрыемстваў, якія зараз праводзяцца на вёсцы.

Не сустракаючы належнага нажыму і адпору з боку бедняты і іншых ворганаў кулацкія элемэнты раёну, залезшы ў паасобныя сельскія саветы і калгасы праводзяць там сваю разлагаючую палітыку. Так, у калгасе „Беларускі Гаспадар“, дзе на чале калгасу стаіць падкулачнік нехта Драпеза Рыгор, які быў раней старшынёй сельскага савету і вычышчан з апарату за сувязь з кулацтвам і выдачу кулакам даведак аб беднасьці і які, будучы ўжо старшынёй калгасу, біў калгасьніцу-батрачку, а на іншых адказных работах сядзяць заможнікі, родзічы старшыні; беднякі і батракі ня прымаюцца ў гэты калгас таму, што як быццам там няма памяшканьня.

У калгасе „Авангард" калгасьнікі ў ліку 12 чалавек, ідучы касіць, бралі на полудзень амаль штодня пуд масла. У калгасе „Прасьвет" з узятых вясной ў каапэрацыі 36 плугоў зараз засталося толькі 2-3 плугі, а астатнія не вядома дзе дзеліся. У гэтым жа калгасе спалена на дровы значная колькасьць халодных будынкаў, у тым ліку спалены хлеў былога нацыянальнага калгасу імя „Мясьнікова". Неразьмеркаваньне да гэтага часу ураджаю ў гэтым калгасе, кіраўніцтва калгасу тлумачыць тым, што няма чаго разьмяркоўваць.

Работа па інтэрнацыянальнаму выхаваньню ў раёне не наладжана. Таму маюцца выпадкі антысэмітызму і шавінізму. У свой час, калі раённыя ўстановы і арганізацыі захварэлі вядомай калгаснай хваробай „гігантоманіяй" яны аб'яднал́і ў адзін калгас 4 калгасы, з якіх два існавалі з 1927 году, адзін нацыянальны яўрэйскі калгас імя „Мясьнікова" з 1921 году і адзін новы калгас.

Пасьля рэарганізацыі памянёных калгасаў у адзін калгас „Гігант", у ім ня было забясьпечана кіраўніцтва, а таксама адсутнічала належная палітычна-выхаваўчая інтэрнацыянальная работа і работа па арганізацыі правільнага інтэрнацыянальнага супрацоўніцтва. Паміж калгасьнікамі розных нацыянальнасьцяй, пад уплывам кулацка-нэпманскіх элемэнтаў, пачала праяўляцца нацыянальная варожасьць, якая выявілася ў фактах антысэмітызму і нацыянал-шавінізму, як з боку яўрэяў, гэтак і з боку беларусаў.

На барацьбу з гэтымі праяўленымі фактамі своечасова ня была зьвярнута належная ўвага, ня была вакол гэтых фактаў згрупавана грамадзкая думка і накіравана ў бок жорсткай барацьбы з гэтымі праявамі, як праявамі контр-рэвалюцыйнага парадку. У выніку чаго на сёньняшні дзень у рэарганізаваным калгасе не засталося ніводнага калгасьніка з былога нацыянальнага яўрэйскага калгасу. Яны ўсе вышлі з калгасу, а раённыя ўстановы нават не цікаваліся прычынамі, якія выклікалі выхад з калгасу калгасьнікаў яўрэяў, якія былі ў калгасе з 1921 году і добра наставілі гаспадарку калгасу. Пры аб'яднаньні памянёных калгасаў нацыянальны калгас перадаў рэарганізаванаму калгасу добрыя пабудовы, сельска-гаспадарчыя машыны і інвэнтар, вельмі добрых коняў і больш за 50 штук дойных кароў, ня лічучы значнай колькасьці маладняку і сьвіней.

**Вучот аб'ектаў і ільготы беднаце.**

Кампанія вучоту аб'ектаў абкладаньня і сельска-гаспадарчая падатковая кампанія па раёну праведзена надзвычайна дрэнна. Ня кажучы ўжо аб тым, што на 20/XII-1930 году выканана ўсяго толькі 85,7 проц. сельска-гаспадарчага падатку і 51 проц. самаабкладаньня, шмат аб'ектаў абкладаньня ўкрыта зусім. Ужо ў сьнежні месяцы у вёсцы Асінаўка выяўлена ўкрытымі 84 гэктары пасеву і шмат жывёлы. Асабліва неабходна падкрэсьліць, што, дзякуючы недастатковай увазе з боку сельсаветаў і раённых устаноў вучоту аб'ектаў абкладаньня, значная колькасьць заможна-серадняцкіх гаспадарак зусім вызвалілася ад сельска-гаспадарчага падатку. Напрыклад у вёсцы Мармарычах, Людзьвінаўскага сельскага савету аслабонены зусім ад сельска-гаспадарчага падатку, як беднякі Салавей Цімох, які мае 2 коні, 6 штук рагатай жывёлы і яшчэ 7/XII-1930 г. меў 20 коп неабмалочанага жыта, а таксама які зьняў з 4 дзесяцін, засеяных на зямлі лесфонду, ураджай грэчкі; Рудніцкі Павел з тэй жа вёскі мае 2 валы, 3 каровы; Суганяка Кузьма мае 1 каня, 2 валы, 2 каровы, 2/5 надзела зямлі і гэтак далей.

Маецца таксама шмат гаспадарак з яўна выражанымі кулацкімі прызнакамі. Аднак па ўсяму раёну ў індывідуальным парадку абкладзена толькі адна гаспадарка, а раённыя ўстановы і сельсаветы замест прыняцьця рашучых мер да выяўленьня маючыхся ў раёне кулацкіх гаспадарак апраўдваюць сваю бязьдзейнасьць створанай кулакамі і падкулачнікамі тэорыяй—„у нас кулакоў няма".

Мабілізацыя сродкаў таксама не на належнай вышыні. Асабліва адстае рэалізацыя пазыкі „пяцігодка ў чатыры гады, квартальнае заданьне па якой на 16/XII выканана толькі на 46,3 проц. Зварот пазычак крэдытнаму таварыству на 47,8 проц., уступныя ўзносы ў кал-

гасы на 11 проц., мэтавыя ўкладаньні ня выкананы, нават, і на 1 проц.

Замест шырокай папулярызацыйнай работы, якая-б забясьпечыла пасьпяховае выкананьне заданьняў па мабілізацыі сродкаў наглядаюцца выпадкі націску прымусовых мер і г. д. Напрыклад, аблігацыі даюцца ў дадатак да гарэлкі, цукру і г. д. Нават абавязковыя плацяжы, якія ўжо патрэбна было выканаць на ўсе 100 проц. выкананы па страхоўцы толькі на 66 проц. самаабкладаньне на 51 проц., сельска-гаспадарчаму падатку як было паказана вышэй на 85 проц. і г. д.

Вось каротка аб некаторых недахопах, якія маюцца ў рабоце Азарыцкага РВК і на зьнішчэньне якіх раённым арганізацыям патрэбна зьвярнуць самую сур'ёзную ўвагу.

**М. А. Рабцэвіч.**

## Сельскія саветы і мабілізацыя сродкаў.

**(па матар'ялах друку).**

Аб'яднаны пленум ЦК і ЦКК Усе КП(б) вызначыў бальшавіцкую праграму сацыялістычнага будаўніцтва на 1931 г.

У адпаведнасьці з гэтаю праграмаю зацьверджан фінансавы плян на бягучы год у суме 31,1 млрд. руб. па даходнай частцы і 29,6 млрд. руб. па расходнай частцы. Зацьверджаны аб'ём фінансавага пляну паказвае, што даходная частка на 1931 г. павінна перавысіць расходную і стварыць дзяржаўны рэзэрв у паўтары млрд. рублёў.

Пастановы пленуму з асаблівай яскравасьцю падкрэсьліваюць, што „бяз строгага выкананьня фінансавага пляну немагчыма ажыцьцяўленьне намечанага гаспадарчага пляну“. Пленум паставіў задачу перад усімі кіруючамі органамі „весьці рашучую барацьбу з недаацэнкаю ролі і значэньня фінансавай сыстэмы на даным этапе сацыялістычнага будаўніцтва“.

Усё гэта яшчэ раз ставіць перад усімі партыйнымі арганізацыямі, дзяржапаратам і ўсёй савецкай грамадзкасьцю вялізарнейшыя і рашучыя задачы ў справе ажыцьцяўленьня бальшавіцкае праграмы трэцяга году пяцігодкі.

Зразумела, што для забясьпечаньня поўнага выкананьня бальшавіцкіх плянаў сацыялістычнага будаўніцтва на 1931 год у першую чаргу вялізарнейшую ролю павінна адыгрываць поўнае выкананьне фінансавага пляну.

У зацьверджаным сводным фінансавым пляне на раду з дзяржбюджэтам значнае месца адведзена і праграме мабілізацыі сродкаў насельніцтва. Своечасовае і поўнае выкананьне гэтай праграмы будзе мець вялізарнейшае гаспадарчае і палітычнае значэньне. Адсюль райвыканкомы і ў першую чаргу сельсаветы, як непасрэдныя выканаўцы гэтай праграмы, павінны зараз-жа прыступіць да ліквідацыі прарываў ударнага кварталу з адначасовым выкананьнем заданьняў першага кварталу 1931 г. у гэтай галіне. Падставы ня толькі для поўнага выкананьня прарываў на гэтым фронце ударнага кварталу і пляну трэцяга рашаючага году пяцігодкі, але і значнага перавыкананьня іх, маюцца досыць грунтоўныя. Грашовыя назапашваньні сельскага насельніцтва за мінулыя гады і вялізарнейшае паступленьне сродкаў у вёску ў сувязі з рознага роду загатоўкамі, разгорнутым будаўніцтвам на месцох і адходамі на сэзонныя работы ў гарады працаздольнага вясковага насельніцтва у мінулым 1930 годзе па БССР налічваецца мільёнамі рублёў.

Між тым разьмер усіх абавязковых выдаткаў з кожнага сялянскага двара за апошні год значна паменшыўся. Гэтыя факты дашчэнту разьбіваюць праваапартуністычныя довады аб тым, што кіруючымі органамі даюцца немагчымыя заданьні.

Гэтыя праваапартуністычныя довады яшчэ шкодны і таму, што яны хочуць захаваць тое становішча, што створаныя на вёсцы вялізарнейшыя грашовыя назапашваньні не знаходзяць сабе рацыянальнага прымяненьня і нярэдка служаць сродкам для праяўленьня хуліганскіх выхадак праз п'янкі, гульню ў кар-

ты на грошы і інш., асабліва ў сучасны момант, калі ў нас на вёсцы надзвычайна слаба разьвіты формы грашовае ашчаднасьці (уклады, паянакапленьні, пазыкі і інш.).

Вопыт праверкі работы на мясцох паказаў, што там дзе сельсаветы ў поўнай адпаведнасьці з дырэктывамі вышэйшых органаў разгарнулі і па бальшавіцку арганізавалі ўсю савецкую грамадзкасьць на мабілізацыю сродкаў, маюцца значныя дасягненьні. Да такіх раёнаў па даных Наркамфіну, трэба аднесьці Быхаўскі, Клімавіцкі, Межанскі, Круглянскі, Ветрынскі, Бешанковіцкі, Краснапольскі, Плешчаніцкі, Самахвалавіцкі, Полацкі, Каралінскі, Бягомльскі, Брагінскі, Копыскі і інш. Гэтыя раёны амаль ўсе вызначаныя ім заданьні выканалі цалкам, а некаторыя, як напрыклад, Плешчаніцкі, па распаўсюджваньні пазыкі „Пяцігодка ў чатыры гады“ дадзенае яму заданьне выканаў на 214,3 проц., Самахвалавіцкі—на 145,8 проц. і г. д.

Гэтыя даныя з дастатковай поўнатой гавораць, што ўсе памянёныя райвыканкомы своечасова заняліся справаю мабілізацыі сродкаў насельніцтва, стала наладзілі кіраўніцтва працаю сельсаветаў па арганізацыі вакол гэтае кампаніі ўсяе савецкае грамадзкасьці, надалі баявы характар праз ужываньне сацспаборніцтва і ўдарніцтва выкананьню яе, устанавілі строгі кантроль за фактычным выкананьнем заданьня як кожнаю ўстановаю, так і асобнымі іх работнікамі.

Дзякуючы такой ўстаноўцы значная частка сельсаветаў гэтых раёнаў дадзеныя ім заданьні выканалі па бальшавіцку поўнасьцю, яны вакол гэтых пытаньняў арганізавалі ўсю грамадзкасьць і ўвесь савецкі актыў шляхам выкліканьня адны другіх на сацспаборніцтва. Да такіх сельсаветаў трэба аднесьці Бабаўнянскі с/с., Капыльскага раёну, які мабілізаваў на гэтую справу ўсю актыўнасьць і праз сацспаборніцтва ў в. Лава на 19 двароў распаўсюдзіў пазыкі „Пяцігодка у чатыры гады“ на 120 руб. Такую работу гэты сельсавет правёў і па другіх вёсках.

Харлампавіцкі с/с, Бабруйскага раёну і Камена-Борскі с/с, Бярэзінскага раёну, якія сумесна з мясцовымі камсамольскімі ячэйкамі арганізавалі брыгады па распаўсюджваньні пазыкі „Пяцігодка ў чатыры гады“ і па ўзысканьні ўсяе запазычнасьці з насельніцтва. Гэтыя брыгады рабілі падворныя абыходы, вялі там растлумачальную работу і ў выніку гэтага ўсе плянавыя заданьні поўнасьцю выканалі.

Такая-ж работа і з такімі-ж вынікамі праведзена па Баярскім, Бельскім, Балаўскім і Мала-Сітнянскім сельсаветах Полацкага раёну, Кублікаўскім с/с, Боркавіцкага раёну і шмат інш.

Такіх узорных прыкладаў работы сельсаветаў можна было-б прывесьці цэлы шэраг, але мы лічым, што і паказаных даволі для таго, каб разьбіць усе апартуністычныя довады ў немагчымасьці выканаць дадзеных сельсаветам заданьняў.

Побач з пералічанымі станоўчымі бакамі працы райвыканкомаў і сельсаветаў у галіне мабілізацыі сродкаў, маюцца і такія раёны і сельсаветы, якія ганебна адстаюць і плятуцца ў хвасьце.

Да такіх раёнаў і сельсаветаў адносяцца:

| Назва райвыканкому або сельсавету | %% выкананьня | | | |
|---|---|---|---|---|
| | С.-х. падатак | Страмоўка | Самаабкладаньне | Пазыка |
| Рэчыцкі райвыканком | 79,6 | — | 39,7 | 42,1 |
| Уваравіцкі „ | 79,7 | — | — | — |
| Лоеўскі „ | 75,5 | — | — | — |
| Камарынскі „ | 81,3 | — | — | — |
| Капыльскі „ | — | — | 29 | — |
| Краснапольскі „ | — | — | 33,4 | — |
| Капаткевіцкі „ | — | — | 36,4 | — |
| Высачанскі „ | — | — | — | 29,9 |
| Глускі „ | — | — | — | 39,3 |
| Грэскі „ | — | — | — | 40,9 |
| Цэрахоўскі „ | — | — | — | 41,1 |
| Гарадоцкі „ | — | — | — | 44,9 |
| і шэраг іншых раёнаў з такім нізкім процантам выкананьня | | | | |
| Любоніцкі с/с, Бабруйск. р. | 68,9 | — | — | — |
| Зеляноцкі с/с Мазырскага р. | 71,1 | 55,3 | 42,6 | — |
| Рафальскі с/с. Магілеўск. р. | — | 61,9 | 16 | — |
| Пліскі с/с, Вушацкага р. | 74 | 68,6 | 37,5 | — |
| Масырскі с/с, Вушацкага р. | 79 | 57,9 | — | — |

і цэлы шэраг інш. сельсаветаў, якія ня выканалі плянавых заданьняў па мабілізацыі сродкаў насельніцтва.

Гэтыя факты паказваюць, што сельсаветы, якія ня цалкам выканалі дадзенныя ім кантрольныя лічбы, не зразумелі таго палітычнага і гаспадарчага значэньня, якое надаюць гэтай кампаніі нашыя кіруючыя органы, а райвыканкомы ня сумелі арганізаваць работы с/с і ўсей савецкай грамадзкасьці вакол выкананьня пляну мабілізацыі сродкаў. Апартуністычная стаўка некаторых райвыканкомаў на самацёк, бязьдзейнасьць у гэтай справе шэрагу сельсаветаў прывялі да таго, што за ўдарны квартал у касы дзяржбанку недаступіла 15 мільёнаў рублёў. Няўменьне райвыканкомаў арганізаваць работу і перавесьці яе на баявыя тэмпы і бязьдзейнасьць сельсаветаў лье ваду на млын клясавага ворага—кулака, шкодніка, інтэрвэнта, і стварае пагрозу ў выкананьні вызначанай Пленумам ЦК і ЦКК УсеКП(б) праграмы сацыялістычнага будаўніцтва на 1931 г.

Верх галавацяпства ў справе мабілізацыі сродкаў насельніцтва праявіў старшыня Бычынскага с/с, Хойнікскага раёну, Рудчанка Васіль, які, замест арганізацыі па пытаньню мабілізацыі сродкаў насельніцтва сацспаборніцтва паміж актывам с/с і асобнымі вёскамі, хадзіў па дварох і ўтвараў вопісы маемасьці грамадзян.

Як на адмоўны бок у рабоце некаторых сельсаветаў у галіне выкананьня дадзеных ім плянаў, трэба да ўсяго пералічанага ўказаць яшчэ і на адсутнасьць кантролю з боку сельсаветаў за працай паасобных выканаўцаў. Каб ня быць галаслоўным прывядзем факты. Вяліка-Раеўскі с/с, Копыльскага раёну яшчэ ў кастрычніку м-цы даручыў настаўніку Куцаўшчынскае школы тав. Непартовічу распаўсюджыць аблігацыі пазыкі „Пяцігодка ў чатыры гады“ на суму 100 руб. Гэты настаўнік увесь час насіў дадзеныя яму аблігацыі ў кішэні і, не паставіўшы дакладу аб значэньні пазыкі для нашага сацыялістычнага будаўніцтва на сходзе сялян, зьбіраецца ўжо аддаць іх назад у с/с, а сельсавет не пацікавіўся яго работаю ў працягу трох месяцаў і не заслухаў аб гэтым яго інфармацыі. Такіх фактаў па сельсаветах БССР маецца шмат.

Апрача гэтага па некаторых сельсаветах наглядаюцца нават наплявацельскія і чыста шкодніцкія адносіны да выкананьня заданьняў па мабілізацыі сродкаў насельніцтва. Так напрыклад, старшыня Карпілаўскага с/с, Глускага раёну, Шармэст Даніла атрымаў ад гр-н в. Рудня Гашынскага Кандрата і в. Азямлі Маліновіча Патапа па 10 руб. з кожнага яшчэ на III пазыку індустрыялізацыі і да гэтага часу не аддаў памянёным грамадзянам ні аблігацый, ні грошай.

Такіх безадказных адносін да выкананьня плянаў ня толькі па мабілізацыі сродкаў насельніцтва, але і ўсіх гаспадарча-палітычных кампаній маецца шмат і па другіх с/с.

Для зьліквідаваньня прарываў па мабілізацыі сродкаў насельніцтва на мясцах, райвыканкомам неабходна выявіць прычыны і дапамагчы ўноў абраным складам сельсаветаў арганізаваць грамадзкасьць вакол выпраўленьня маючыхся недахопаў у працы с/с наогул і асабліва ў галіне мабілізацыі сродкаў насельніцтва.

Перадавыя сельсаветы ў справе мабілізацыі сродкаў насельніцтва павінны ўзяць на грамадзкі буксір адстаючыя суседнія сельсаветы, паслаўшы туды брыгады калгасьнікаў, рабочых і актыў сельсавету.

РКК РСІ неабходна зараз-жа склікаць раённыя нарады сельскіх рэвізійных камісій і прапрацаваць з імі праграму работы па ўстанаўленьні пастаяннага грамадзкага кантролю за працай сельсаветаў у справе выкананьня ўсіх дырэктыў вышэйшых органаў і асабліва ў галіне мабілізацыі сродкаў, каб гэтым самым сваечасова сыгналізаваць аб адставаньні работы с/с у справе выкананьня заданьняў для прыняцьця адпаведных мер бальшавіцкага ўзьдзейнічаньня.

Б.

---

**Шырокім удзелам савецкай грамадзкасьці і жорсткай фінансавай дысцыплінай выканаем поўнасьцю праграму мабілізацыі сродкаў.**

# Становішча гарадзкіх таварыстваў узаемадапамогі па БССР.

Ня гледзячы на вялікую палітычную важнасьць работы гарадзкіх таварыстваў узаемадапамогі, апошнія да 1930 году былі амаль бяз усякага кіраўніцтва, кантролю і ўвагі з боку гарадзкіх савецкіх і прафсаюзных арганізацый.

Як вынік усяго гэтага мы мелі, што ў кіраўніцтва гэтых т-ваў пападалі чужыя і варожыя рабочай клясе элемэнты. Напрыклад: да 1928 году ў Менскім Гар. Камітэце на пасадзе Старшыні быў буйны Менскі банкір Браўдо, у Віцэбску цэлы букет лішэнцаў, равінаў, паліцэйскіх, якія давялі камітэт да 35.000 р. убытку, у Рагачове буйны лесапрамысловец і буйны дамаўласьнік. Такое самае становішча было ў Мсьціслаўле, Барысаве і іншых гарадох і мястэчках.

Усе гэтыя „кіраўнікі“ працавалі ў сваіх уласных мэтах, паставіўшы работу гарадзкіх т-ваў узаемадапамогі на шлях былых „благатварыцельных“ нацыянальна-яўрэйскіх рэлігійных арганізацый, на шлях гандлёвай дзейнасьці і філантрапічнай дапамогі.

Толькі ў канцы 1928 і пачатку 1929 году, дзякуючы пралетарскай грамадзкасьці і шырокай самакрытыцы, усе гэтыя прымазаўшыеся элемэнты былі разаблачаны і выгнаны з т-ваў узаемадапамогі (справа Віцебскага Камітэту).

Зараз калі гарадзкія т-вы Узаемадапамогі падпарадкаваны кіраўніцтву ЦК Сялянскіх Т-ваў Узаемадапамогі, калі непасрэднае кіраўніцтва ў саміх Гарадзкіх Камітэтах аднавілі за лік рабочых, гарадзкія т-вы ўзаемадапамогі пачалі карэнным чынам перабудоўваць сваю работу ў напрамку тых задач, якія ставяць перад імі Камуністычная партыя і Савецкая ўлада, ачышчаючыся ад усіх прымазаўшыхся да т-ваў чужых элемэнтаў, уцягваючы ў таварыствы беднату гарадоў усіх нацыянальнасьцяй.

На сёньняшні дзень у рабоце гарадзкіх т-ваў маюцца значныя дасягненьні, асабліва ў арганізацыі вытворчых прадпрыемстваў і ўцягненьня бедняты гарадоў у вытворчыя працэсы.

Зараз па гарадзкім т-вам узаемадапамогі БССР налічваецца звыш 30 прамысловых і 25 гандлёвых прадпрыемстваў, дзе занята каля 1.000 чалавек бедняты. Асабліва вялікія дасягненьні ў арганізацыі вытворчых прадпрыемстваў мае Віцебскі камітэт, які ў 1930 годзе пабудаваў гузікавую і дрэваапрацовачную фабрыку, дзе занята звыш 200 чал. Гэтыя фабрыкі абсталяваны ў належнай колькасьці рознага роду навейшымі і складанымі станкамі. Агульны зварот гэтага камітэту за 1929-30 год як па вытворчай, так і па гандлёвай дзейнасьці складае каля 2-х мільёнаў руб.

Менскі камітэт мае 6 вытворчых прадпрыемстваў з агульным лікам занятых на прадпрыемствах каля 300 чал. бедняты.

Бабруйскі Камітэт у 1930 годзе арганізаваў 4 вытворчых прадпрыемствы, з якіх адзін буйны крухмальна-патачны завод і г. д.

Усе прадпрыемствы гар. камітэтаў галоўным чынам працуюць на мясцовым сырцу і з гэтага году часткова перайшлі на плянавасьць у працы.

Па кантрольным лічбам, намечаным на 1931 год, прадугледжваецца пашырэньне прадпрыемстваў, а разам з гэтым і ўцягненьне большай колькасьці бедняты ў вытварчыя працэсы, а таксама павялічэньня выпуску прадукцыі ў параўнаньні з 1929-30 годам больш чым у 6-ць разоў (у 1929-30 г. было на 398.475 р., на 1931 г.—вызначана на 2.743.508 руб.).

Побач з разгортваньнем і гаспадарчым узмацненьнем вытворчых прадпрыемстваў, узрастае і зарплата рабочых. Калі ў 1929 годзе на прадпрыемствах гор. камітэтаў сярэдні заробак рабочага складаўся 20-30 руб., дык у 1930 г. ён складае 50-70 руб.

Таксама ў значнай меры павялічылася сталая-беззваротная дапамога непрацаздольнай частцы бедняты як у колькасных, так і ў якасных паказчыках. Павялічылася мэдычная дапамога праз свае досыць добра абсталяваныя паліклінікі якіх у камітэтах па БССР налічваецца да 7.

Але на раду з усімі дасягненьнямі на сеньняшні дзень гарадзкія т-вы ў сваей працы маюць досыць значные недахопы.

Як галоўны недахоп—гэта безгаспадарчасьць на прадпрыемствах асабліва гэта наглядаецца ў Менскім камітэце, дзе нядаўна зьнята з працы ўсё кіраўніцтва. Праявы антысымітызму і шавінізму, асабліва яўрэйскага, рвацтва, п'янства на прадпрыемствах, брак і г. д. Усё гэта гаворыць за тое што, Камітэты гарадзкіх т-ваў узаемадапамогі не разгарнулі адпаведнай культурна-масавай і выхаваўчай работы сярод аб'яднанай у трудавыя працэсы беднаты. Таксама не зусім добра справа з разгортваньнем самакрытыкі. Наглядаюцца моманты ганеньня за самакрытыку (Менск, слесарная майстэрня), паўнейшае адсутнічаньне на прадпрыемствах насьценгазэт і наогул грамадзкасьці.

На сёньняшні дзень у некаторых камітэтах маюцца шкодныя думкі аб тым, што на іх прадпрыемствах працуе дэклясаваны элемэнт, з якім нельга праводзіць тае грамадзкае працы, якую можна праводзіць сярод рабочых дзяржаўных прадпрыемстваў. У выніку чаго да гэтага часу на прадпрыемствах гар. камітаў не знайшлі свайго шырокага прымяненьня сацыялістычнае спаборніцтва і ўдарніцтва, не разгорнута праца па рацыяналізацыі, па збору рабочых прапаноў і наогул не мабілізаваны масы на выкананьне тых задач, якія ставяцца перад гарадзкімі т-вамі ўзаемадапамогі. Як недахоп у дзейнасьці гарадзкіх т-ваў яшчэ зьяўляецца і тое, што адсутнічае ўсякая праца сярод усіх членаў т-ваў, якія на сёньняшні дзень не ахоплены прадпрыемствамі. Зусім нездавальняючая праца ў справе каапэрыраваньня беднаты ў вытворчыя саматужныя аб'яднаньні.

Таварыствы Узаемадапамогі раённых гарадоў, дзе у лік членаў таварыства ўваходзіць значная частка сялян, не займаліся адпаведнай работай па арганізацыі калгасаў.

Былі выпадкі, калі гарадзкія Т-вы і іх камітэты вялі антыкалгасную-кулацкую палітыку, што наглядалася ў Барысаве, дзе замест дапамогі калгасу ў яго арганізацыйна-гаспадарчым замацаваньні, растлумачэньне ідэй калектывізацыі сярод сваей масы і ўцягненьне яе ў калгас, камітэт стаў кулацкім рупарам, паставіўшы ўсіх сваіх членаў Т-ва супроць калгасу. Нельга не адзначыць, як на значны недахоп, гэта на неўважлівыя адносіны да Гарадзкіх Камітэтаў з боку мясцовых савецкіх і каапэрацыйных арганізацый.

Гарсаветы да апошняга часу не прыступілі, згодна пастановы СНК БССР ад 23/IX-30 г., да ажыцьцяўленьня свайго штодзённага кіраўніцтва працаю Гарадзкіх Т-ваў, не прынялі належных захадаў да ўзмацненьня эканамічна-грашовай базы гэтых Т-ваў, для аказаньня дапамогі беднаце, праз перадачу Т-вам Узаемадапамогі рознага роду дробных прадпрыемстваў, крэдытаў і г. д.

Гэты галоўнейшы вучастак працы да гэтага часу ня мае свайго адбітку ў дзейнасьці Гарсаветаў. Большасьць Гарсаветаў пытаньнем Т-ваў Узаемадапамогі амаль што не займаюцца, дзякуючы чаму ў некаторых гарадох (у Гомелі) камітэты былі створаны па нацыянальных разьмяжаваньнях—сялянскі камітэт, які аб'яднаў беларусаў, а другі камітэт дапамогі, які аб'яднаў 95 проц. яўрэяў, у горадзе Рэчыцы Гарсавет сам вынес нацыянальна-апартуністычнае рашэньне аб стварэньні па прыкладу Гомеля 2-х камітэтаў.

З боку каапэрацыйных арганізацый таксама заўважаны зусім недапушчальныя адносіны да Гарадзкіх Т-ваў Узаемадапамогі. У горадзе Калінкавіч, калі Гаркамітэт паслаў у сталоўку для працы адну дзяўчыну-бяднячку, дык старшыня каапэрацыі заявіў—„куды ты лезеш з сваей беднатой, што яна можа рабіць, тваей беднаце на печы сядзець, а ня справай займацца“. Такія-жа права-апартуністычныя погляды на беднату з боку асобных работнікаў мы маем ў іншых мясцох, як напрыклад у горадзе Рэчыцы, калі было выяўлена няправільнае рашэньне Гарсавету адносна стварэньня камітэтаў, намесьнік старшыні Гарсавету заявіў, што ў іх горадзе беднаты няма за выключэньнем беднаты сялян, якія і аб'яднаюцца камітэтам.

Усе гэта сьведчыць аб тым, як з боку Гарсавету так і каапэрацыйна-грамадзкіх арганізацый да апошняга часу не адчуваецца патрэбная ўвага дзейнасьці Т-ваў Узаемадапамогі, неадчуваецца з іх боку належнай, практычнай дапамогі ў справе разгортваньня працы

Т-ваў, асабліва ў напрамку вытворчай дзейнасьці для аказаньня дапамогі гарадзкой беднаце.

Горсаветы павінны зьвярнуць больш увагі ў разгортваньні дзейнасьці Гаркамітэтаў, паставіць на належную вышыню свае кіраўніцтва і практычную дапамогу з тым, каб Камітэты здолелі з посьпехам выканаць тыя задачы, якія на іх ускладаюцца.

Гарсаветы ў выкананьне пастановы СНК БССР ад 23/IX-30 г. павінны зьвярнуць асаблівую ўвагу на ўзмацненьне эканамічна-грашовай базы Гаркамітэтаў праз прадстаўленьне камітэтам рознага роду крэдытаў і перадачы прадпрыемстваў і арцеляў.

Гарадзкія Т-вы Узаемадапамогі ў сваю чаргу павінны прыняць усе меры да выпраўленьня маючыхся ў іх недахопаў, да ліквідацыі прарываў, наглядаючыхся ў асобных галінах іх дзейнасьці.

На прадпрыемствах Гаркамітэтаў неабходна шырока скарыстаць сацыялістычныя мэтады сац. спаборніцтва і ўдарніцтва, павесьці рашучую барацьбу з безгаспадарчасьцю, з п'янкай, з рвацтвам, прагуламі, антысэмітызмам і шавінізмам, узмацніўшы культурна-масавую і інтэрнацыянальную працу. Дабіцца, каб гэта праца не насіла кампанейскага характару, а займала адпаведнае месца ў штодзённай рабоце, ня толькі сярод беднаты, якая працуе на прадпрыемствах камітэтаў, але сярод усяе беднаты, якая аб'яднана ў т-ва.

На прадпрыемствах Гаркамітэту трэба разгарнуць шырока самакрытыку, уцягнуць усіх рабочых у арганізуемыя на прадпрыемствах грамадзкія арганізацыі, вытварчыя нарады і іншыя, што садзейнічае выяўленьню недахопаў і ўзмацненьню прадпрыемстваў, мабілізоўваючы гэтыя масы на ліквідацыю ўсіх тых прарываў, якія наглядаюцца на прадпрыемствах камітэтаў.

Уся дзейнасьць Гаркамітэтаў павінна быць накіравана на 100 проц. уцягненьне гарадзкой беднаты ўсіх нацыянальнасьцяй, якія карыстаюцца выбарчымі правамі, у члены т-ва, на арганізацыю новых і пашырэньне старых вытворчых прадпрыемстваў, асабліва тых, якія працуюць на мясцовым сырцу, зьнішчыўшы канчаткова філантрапічную і гандлёвую дзейнасьць, якая маецца на сёньняшні дзень у шэрагу камітэтаў.

Камітэты раённых гарадоў на чарзе з арганізацыяй вытворчых прадпрыемстваў павінны весьці штодзённую працу па арганізацыі гарадзкіх і прыгарадных садова-гародных і другіх калгасаў, накіроўваючы для гэтай мэты свае мерапрыемствы і сродкі і разам з гэтым, аказваючы арганізацыйна-матар'яльную дапамогу ўжо існуючым калгасам.

У рабоце гарадзкіх т-ваў узаемадапамогі павінна заняць важнае месца каапэрыраваньня беднаты ў саматужныя і другія вытворчыя аб'яднаньні, вылучыўшы для гэтай мэты належныя сродкі.

Таксама камітэты павінны заняць належныя месца ў правядзеньні ўсіх гаспадарча-палітычных і масавых кампаній праводзімых у гарадох, павінны мабілізаваць усіх сваіх членаў на барацьбу з рознага рода спэкулянскімі і клерыкальнымі элемэнтамі, перашкаджаючымі ў правядзеньні мерапрыемстваў партыі і ўлады. Т-вы і іх камітэты павінны заняць належныя месца ў працы сэкцый гарадзкіх саветаў, разам з гэтым прыняць актыўнейшы ўдзел у правядзеньні перавыбарчай кампаніі гарадзкіх саветаў.

Толькі тады, калі на дзейнасьць гарадзкіх т-ваў узаемадапамогі будзе зьвернута дастатковая ўвага з боку Гарсаветаў і другіх арганізацый, калі камітэты Гарадзкіх Т-ваў мабілізуюць усю сваю членскую масу на правядзеньне ўсіх мерапрыемстваў партыі і ўлады, на выкананьне сваіх плянавых заданьняў, толькі тады камітэты яшчэ больш апраўдаюць сябе ў справе выкананьня пастаўленай перад імі задачы.

П. Асіпчык.

**Разгорнутае наступленьне сацыялізму па ўсяму фронту абвастрае клясавую барацьбу. Мацней огонь па кулаку, нэпману, шкодніку і памагаючаму ім бюракрату.**

# Клясавая барацьба на вёсцы і работа з беднатой.

Зараз, калі мы шчыльна падайшлі да рэканструкцыі сельскай гаспадаркі на базе суцэльнай калектывізацыі і на падставе гэтага да ліквідацыі кулацтва як клясы, клясавая барацьба абвастраецца як ніколі.

Абвастрэньне гэтай барацьбы выклікана тымі вялікімі дасягненьнямі ў нашым сацыялістычным будаўніцтва, якое пад лёзунгам камуністычнае партыі „дагнаць і перагнаць“ пераможна ідзе ўсё ўперад і ўперад, ператвараючы Беларусь краіну „мхоў“ і „пяскоў“ краіну аграрную, „адстала сермяжную“, у краіну індустрыяльна-аграрную, у краіну новых волатаў—фабрык і заводаў, новых электрастанцый, новых волатаў фабрык сельска-гаспадарчай прадукцыі, буйных і буйнейшых саўгасаў і калгасаў, якія наносяць руйнуючы і непапраўны ўдар кулацтву і яго ідэолёгам розным нацдэмам і розным ухілістым ад генэральнай лініі партыі.

Гэтыя вялікія посьпехі сацыялістычнага будаўніцтва выклікалі жорсткае супраціўленьне з боку варожых элемэнтаў.

„Усе варожыя пралетарыяту элемэнты,—як сказаў генэральны сакратар ЦК КП(б)Б т. Гэй,—без адрозьненьня нацыянальнасьцяй адзіным фронтам выступаюць супроць калектывізацыі, бо іменна калектывізацыя сельскай гаспадаркі зьяўляецца найбольш магутным і рашаючым ударам па існаваньні гэтых клясаў, гэта значыць кляс варожых пралетарыяту, варожых батрацтву і беднаце і варожых серадняцкай часткі працоўнага сялянства“.

І гэта зусім зразумела, бо гісторыя клясавай барацьбы ня мае такіх прыкладаў, якія-б сьведчылі аб тым, каб уміраючая кляса бяз жорсткае бойкі ўступіла свае месца новай клясе, якая прыходзіць у выніку гістарычнай неабходнасьці на месца гістарычна-уміраючай клясы, якая раней стаяла на чале палітычнага і гаспадарчага жыцьця краіны.

Мэтады барацьбы, якія ўжываюць варожыя элемэнты для перашкоды пераможнаму ходу сацыялістычнага будаўніцтва, прымаюць разнастойныя формы напрыклад: у Валосавіцкім с.-савеце, Азарыцкага раёну кулацкія элемэнты зрабілі напад на актывістага—члена с.-савета, у хаце якога паламалі вокны і разбурылі страху. У тым жа сельскім савеце кулацкія элемэнты, засеўшы на чале калгасу ня прымаюць у калгас батракоў і беднату толькі таму, што як быццам, у калгасе няма памяшканьняў, а старшыня кулгасу б'е калгасьніцу батрачку.

Калгас „Прасьвет“ таго-ж раёну, на чале якога стаялі заможна кулацкія элемэнты, даведзен апошнімі амаль да поўнага распаду. Арганізацыйная работа ў калгасе не наладжана, група беднаты нават неарганізавана. Разьмеркаваньне ўраджаю ня вытварана да гэтага часу, быццам таму, што няма чаго разьмяркоўваць. Як вынік гэтага ў калгасе поўная безгаспадарчасьць, адсутнасьць працдысцыпліны, рвацкія настроі, разбазарваньне маемасьці і г. д.

Кіраўніцтва калгасу, замест наладжваньня работы і зьнішчэньня недахопаў і безгаспадарчасьці, само дапамагае расквітненьню гэтай безгаспадарчасьці. У лесе за 2-3 кіл. ад калгасу ляжаць закупленыя дровы, а кіраўніцтва замест арганізацыі перавозкі гэтых дроў, разбурае будынкі і паліць іх на дровы ў паравым млыне.

У вёсцы Людзьвінаўка таго-ж с.-савету Азарыцкага раёну, дзе ў камісію папалі заможнікі, хлебазагатоўкі праводзяцца парадкам „ураўнілаўкі“ і с.-савет, за невыкананьне даведзеных камісіяй да бядняцка-серадняцкіх гаспадарак кантрольных лічбаў, штрафуе гэтых гаспадаркі і нават у аднэй з іх выводзіць апошнюю карову і г. д.

Падобных прыкладаў можна было-б прывесьці яшчэ цэлы шэраг, але па нашай думцы даволі і гэтых.

Прыведзеныя прыклады, пацьвярджаючы факты аб узросшай клясавай барацьбе, яшчэ з большай выразнасьцю гавораць аб адсутнасьці належнай арганізацыі беднаты, аб адсутнасьці сыстэматычнай і плянавай работы з беднатой.

Толькі ў гэтым, а не ў чым іншым захоўваецца пачатак падобных прыкла-

даў, толькі гэтым тлумачыцца тое, што некаторыя с.-саветы засьмечаны кулацка-варожым элемэнтам, толькі гэтым тлумачыцца тое, што ў некаторыя калгасы і нават у кіраўніцтвы калгасаў залезьлі кулакі, толькі гэтым тлумачыцца створаная самімі-ж кулакамі тэорыя, што ў нас „мол“ кулакоў няма.

Усё гэта гаворыць, што пакольkі ёсьць у паасобных с.-саветах ці калгасах прыклады кулацкай работы, накіраванай ў бок зрыву калектывізацыі, у бок дэзарганізацыі беднаты і г. д., пастольку ёсьць і кулакі. Яны ёсьць, сядзяць дзе та замаскавана, праводзяць сваю работу, а мы таму, што не праводзім належнай работы з беднатой, ня можам іх знайсьці і вывесьці, як кажуць, „на чыстую ваду“.

Чым іншым, як не кулацкай работай і не адсутнасьцю з ёй жорсткай барацьбы, можна растлумачыць вось хоць-бы падобныя прыклады, якія прыводзяцца ў матар‘ялах Інст. Арганізацыйнага Аддз. ЦВК: „работа з беднатой не праводзіцца“ (Буда-Кашалёўскі раён), „групы беднаты арганізаваны толькі на паперы“ Чарэйскі раён), і як вынік гэтага „частка беднаты папала пад уплыў кулацтва і іншых варожых элемэнтаў“ (Буда-Кашалёўскі раён) і некаторыя бедпякі выступаюць супроць хлеба-загатовак“ (Азарыцкі раён).

„У калгасах маецца замкнутасьць, нежаданьне прымаць у калгасы беднякоў, калгасы засьмечаны варожымі элемэнтамі, пры чым у іх складзе маюцца кулакі... Дэфіцытнымі таварамі калгасьнікі—беднякі і батракі не забясьпечваюцца (Чарэйскі раён), а „усе атрымоўваемыя калгасам прамтавары абутак, вопратка і г. д. разьмяркоўваюцца сярод заможнікаў абмінаючы батракоў і беднякоў і ў выніку актыўныя калгасьнікі беднякі і батракі ня могуць выходзіць на працу за адсутнасьцю вопраткі ў той час, калі некаторыя заможныя гаспадаркі атрымалі па 3-4 кажухі і ня менш ботаў“ (калгас „Прасьвет, Азарыцкага раёну).

Падобныя факты т. Гэй у сваім артыкуле ахарактарызаваў ня чым іншым, як „апартуністычнай недаацэнкай работы з беднатой, адсутнасьцю барацьбы з кулацтвам“ і г. д.

Дзеля зьнішчэньня падобных неадхопаў неабходна ў тэрміновым парадку наладзіць сыстэматычную работу з беднатой.

Неабходна, каб групы беднаты, якія зараз маюцца пры с.-саветах, калгасах, КСУ і іншых арганізацыях ня лічыліся толькі на паперы, а сыстэматычна, плянава і штодзённа працавалі. Неабходна, каб групы беднаты былі ўцягнуты ў штодзённую практычную работу тых установаў і арганізацый, пры якіх існуюць гэтыя групы беднаты.

Гэта можа быць ажыцьцяўлено і павінна быць ажыцьцяўлено толькі тады, калі групы беднаты будуць займацца папярэдняй прапрацоўкай і вырашэньнем усіх прынцыповых пытаньняў, якія вырашаюцца ўстановамі і арганізацыямі, пры якіх існуюць гэтыя групы і калі пры самым ажыцьцяўленьні таго або іншага пытаньня яно будзе вырашацца, іменна ў адпаведнасьці з пастановай ці рашэньнем групы беднаты. Вельмі часта прапановы груп беднаты не ажыцьцяўляюцца і яны застаюцца так званымі „халастымі“ прыгожымі пастановамі, якія, аднак, не даюць належных вынікаў як у правільным вырашэньні пытаньня, гэтак і ў напрамку зацікаўленасьці паасобных членаў у рабоце груп беднаты.

Гэтыя факты ёсьць факты апартуністычнай недаацэнкі работы з беднатой і з імі неабходна весьці самую рашучую барацьбу. Неабходна шляхам наладжваньня сыстэматычнай масавай работы з беднатой, шляхам уцягненьня батрацка-бядняцкіх мас вёскі ў практычнае вырашэньне і ажыцьцяўленьне пытаньняў сацыялістычнага будаўніцтва, мабілізаваць гэтыя масы вакол работы с.-саветаў, КСТУ, каапэрацыі, калгасаў і г. д., накіроўваючы іх на жорсткую барацьбу з кулацтвам за ажыцьцяўленьне генэральнай лініі партыі „дагнаць і перагнаць“, за ажыцьцяўленьне работы па рэарганізацыі сельскай гаспадаркі на базе суцэльнай калектывізацыі і на падставе гэтага ліквідацыю кулацтва як клясы.

**Рабцэвіч.**

## НАМ ПІШУЦЬ.

# Вынікі справаздачна-перавыбарчай кампаніі ў Шышчыцкім с/с.

(*Грэшчына*).

Справаздачна-перавыбарчая кампанія саветаў у Шышчыцкім с/с прайшла пры значнай актыўнасьці батрацка-бядняцкіх мас і калгасьнікаў. На 6 справаздачных і 6 прадвыбарчых сходах беднаты прысутнічала 82 проц. Сёлета бедната лепш усьвядоміла свае клясавыя інтарэсы і давала рашучы адпор кулацка-заможнай частцы вёскі. У в. Шваоы на скаргу заможнікаў аб давядзеньні лічбы па хлеба і бульба загатоўках да двара, бедната адказала, што гэта зусім правідлова, бо інакш яны здалі-б свае лішкі не дзяржаве, а на прыватны рынак. У пас. Ульянаўка заможнікі і надкулачнікі запалохвалі беднякоў і гэтым некалькі разоў зрывалі сходы па самаабкладаньню. У часе справаздачна-перавыбарчай кампаніі бедната выявіла шкодную працу заможнікаў і падкулачнікаў і дабілася правядзеньня самаабкладаньня на 50 проц., а ў с/с абрала беднякоў. У в. Бабовішч, дзе праца з беднатой вялася раней слаба, заможнікі пыталіся ня даць права голасу жанчынам, а таксама членам сям'і звыш аднаго ў гэтых сем'ях. Бедняка Астроўскага М. не заклікалі на сход, гаворачы яму, што ён там не патрэбен, а калі ён на сходзе сьмела разаблачаў іх заможніцкія зьдзекі над беднатой, дык было імкненьне не даць яму гаварыць. За час справаздачна-перавыбарчай кампаніі ў гэтым годзе бедната в. Бабовішч яшчэ больш зразумела клясавыя інтарэсы і ў с/с абрала бедняка. У в. Замосьце, калі ў с/суд была высунута кандыдатура батрака, дык заможнік на сходзе пачаў асьмейваць яе, але тут жа з боку беднаты атрымаў належны адпор, і гэта кандыдатура ўсе такі беднатой сумесна з серадннкамі была праведзена ў склад с/суду.

Па с/с праведзена 4 сходы моладзі і 9 сходаў жанчын, якія паказалі, што жанчыны пачынаюць займаць у савецкім будаўніцтве тое месца, якое па праву ім належыць. Ні адна жанчына на сходзе не выказвалася за кандыдатуру якога небудзь падкулачніка, а высоўвалі дэмабілізаваных чырвонаармейцаў, камуністых, камсамольцаў, беднякоў. Яўка жанчын на сходы дайшла да 60 проц. За час справаздачна-перавыбарчай кампаніі арганізаваны адзін калгас пад назвай „Нов. Пабудова“, які па ліку зьяўляецца ўжо пятым у с/с Праведзена ў час справаздачна-перавыбарчай кампаніі грунтоўная падрыхтоўка да арганізацыі па с/с. шостага к-су ў Вараб'ёве. Справаздачна-перавыбарчая кампанія праходзіла адначасова пад пунктам погляду выкананьня ўсіх гаспадарча-палітычных кампаній, што дало выкананьне: па с/гаспадатку 95 проц. страхоўцы 90,5, хлебазагат. 80 проц. і г. д.

Усяго абрана ў савет 25 членаў з якіх калгасьнікаў 6 чал. або 24 проц., беднякоў 9 чал., або 36 проц., серадпякоў 6 чал. (24 проц.), рабочых 2 чал. (8 проц.), служачых 2 чал. (8 проц.) членаў і кандыдатаў КП(б)Б 6 чал. (24 проц.), членаў ЛКСМ 1 чал. (4 проц.), жанчын 4 (16 проц.).

Новаабраны склад с/с ставіць сваёй задачай, згодна дадзенага наказу выбаршчыкаў, шпаркае правядзеньне калектывізацыі дробных сялянскіх гаспадарак на падставе поўнай добраахвотнасьці і разьвіцьцё пярвічных с/г вытворчых аб'яднаньняў, поўнае каапэраваньне насельніцтва, ўцягненьне ў касы ашчаднасьці, мабілізацыя свабодных сродкаў насельніцтва на выкананьне 3-га рашаючага году пяцігодкі. Трэба спадзявацца, што пад правідловым Ленінскім кіраўніцтвам партыі і пры актыўным удзеле батрацка-бядняцка-сераднпцкіх мас с/с гэтыя задачы выканае.

Ст-к.

# Вынікі перавыбарчае кампаніі ў Коранскім с/с.

(*Лагойшчына*).

На тэрыторыі нашага Коранскага с/с. ня маецца партыйнай ячэйкі і справаю як па падрыхтоўцы, так і па правядзеньню справаздачна-перавыбарчай кампаніі саветаў кіраваў упаўнаважаны раённай выбарчай камісіі тав. Крайнік. Увесь сельсавет быў разьбіт на 10 выбарчых вучасткаў. На кожны вучастак у сярэднім прыходзілася 166 выбаршчыкаў. Сходы беднаты, моладзі і жанчын амаль на усіх участках праведзены па 2 разы.

Справаздача сельсавету праходзіла пры шырока разгорнутай самакрытыцы, а наказ прапрацоўваўся пры актыўным удзеле ўсяго працоўнага сялянства. З самага пачатку падрыхтоўчае работы справаздачна-перавыбарчая кампанія была пастаўлена на чале ўсіх гаспадарча-палітычных кампаній і поўнай увязцы іх, з надачаю асаблівае ўвагі калектывізацыі сельскае гаспадаркі бо на тэрыторыі гэтага сельсавету меўся толькі адзін калгас „Чырвоная Зорка". Памянены калгас вылучыў быў спэцыяльную брыгаду для дапамогі с/с у правядзеньні ўсяе работы па перавыбарах. Ня спаў тут і клясавы вораг—кулак, сэктант і клерыкал. Ён у большай часьці адкрыта не выступаў, а дзейнічаў патаемна. Так напрыклад: на выбарчым вучастку Жырблевічы кулакі сумесна з сваімі падгалоскамі клерыкаламі імкнуліся байкатаваць абгаварэньне наказу і на запытаньне прадстаўніка раённай выбарчай камісіі т. Моніча аб прычынах пасыўнасьці выбаршчыкаў з задніх радоў была пушчана рэпліка: „хочам жыць, дык баімося каб ня выслалі". Пасьля кароткай прамовы т. Моніча, якая была накіравана на разаблачэньне гэтай кулацкай махінацыі, бедната сама рашуча асудзіла гэту вылазку і падкрэсьліла, што яна і на далей будзе рашуча весьці барацьбу і дапамагаць партыі і савецкай уладзе ліквідаваць кулацтва як клясу, на базе суцэльнай калектывізацыі. Пасьля бурных такіх выступленьняў наказ быў прапрацован пры надзвычайна высокім удзеле усіх выбаршчыкаў, якія унесьлі цэлы шэраг практычных прапаноў будучаму складу с/с для выпраўленьня заўважаных імі ў час справаздачы сельсавету старога складу недахопаў.

Не забыў наведаць гэты сельсавет і служка божы—ксендз Плешчаніцкага касьцёлу. Ён прыехаў у Корань 21 сьнежня і хацеў адчыніць перадкалядныя набажэнствы, каб гэтым самым мець уплыў і паменшыць яўку на выбарчыя сходы, але спазьніўся, бо ужо ў шмат вучастках падрыхтоўчая работа нагэтулькі добра была арганізавана, што ўплыў яго быў бы слабы. Атрымаўшы ад свайго агента Акуліча такую няпрыемную для яго інфармацыю ксендз толькі пераначаваў і назаўтра змыўся, вядома, даўшы Акулічу цэлы комплекс дырэктыў у адносіне кандыдатур, калектывізацыі і інш.

Клерыкал Акуліч склікаў патаемныя сходы сваіх прыхільнікаў і перадаваў ім дырэктывы ксяндза. Узброеныя Акулічам падкулачнікі прабавалі ісьці у атаку на правадзімыя савецкай уладай мерапрыемствы, але, стукнуўшыся лобам у магутную сьцяну беднаты, ганебна адступілі назад. Так напрыклад, на Лішчыцкім выбарчым вучастку селянін-серадняк хацеў разарваць моцна скованы падрыхтоўчаю работай блёк беднаты з серадняком. У аснову сваёй работы ён палажыў ганьбаваньне дыфэрэнцыраванага водпуску мануфактуры—бедняку —5 мэтраў, а серадняку—3 мэтры на паявую кніжку. Гэта вылазка падкулачніка ўсхвалявала ўсю беднату, якая практычнымі довадамі аб плошчы, засеваемае беднатою і серадняцтвам лёну, даказала і нават пераканала самога падкулачніка ў неправідловасьці яго выступленьня, які непасьледак прызнаўся, што ён і не дадумаўся раней да такое практычнае арытмэтыкі. На Церахаўскім выбарчым вучастку з боку прыхільніцы рэлігійнага культу была вылазка антысэміцкага парадку. Пры абгаварэньні працы школы, у якую прызначаны ў гэтым годзе настаўнік яўрэй, была падана рэпліка: „заразы заразу і прысылаюць". Расшыфроўкі гэта рэпліка не патрабуе, яна наскрозь пахне антысэміцкаю вылазкаю. Гэта спроба клясавага ворага так-

сама была разьбіта самімі выбаршчыкамі той каштоўнай работай, якую праводзіць гэты настаўнік у школе. Супроць выстаўляемых бядняцкімі сходамі і калгасам кандыдатур у сельсаветы адкрытых выступленьняў, ня было, а толькі падаваліся рэплікі: „куды яму бедняку ў сельсавет, яму трэба зарабіць на хлеб, а ў сельсавеце за работу ня плацяць“. Дзякуючы умеламу падбору і папярэдняму ўсебаковаму абгаварэньню ўсе намечаныя беднатою і калгасам кандыдатуры праведзены ў сельсавет. Мы гаварылі, што справаздачна-перавыбарчая кампанія саветаў была цесна ўвязана з разгортваньнем калектывізацыі сельскай гаспадаркі. На Мала-Укропавіцкім выбарчым вучастку пасьля дакладу старшыні сельсавету аб працы прэзыдыуму сельсавету падаецца з шэрага выбаршчыкаў заклік: „Даць слова нашаму свату старшыні калгасу „Чырвоная Зорка“ тав Шчарбовічу“, які пад воплескі актыву пачаў апавядаць аб становішчы калгасу і далейшых задачах аднаасобных гаспадарак. Пасьля тав. Шчарбовіча з прамоваю аб жыцьці жанчын і перавагах калгаснага будаўніцтва выступіла калгасьніца тав. Карповіч Прося, якая практычнымі довадамі з жыцьця калгасу захапіла ўсю аўдыторыю. З такім жа посьпехам праведзены сходы на Лішчыцкім і Церахаўскім выбарчых вучастках. У выніку гэтых посьпехаў у Мала-Укропавічах на тым жы выбарчым сходзе быў арганізаваны калгас, у які з 18 гаспадарак уступіла 10, а па рэштцы вучасткаў арганізаваны ініцыятыўныя групы, якім дадзены строгія наказы да вясеньняй сяўбы арганізаваць новыя калгасы. Школы ўсе былі мабілізаваны на правядзеньне перавыбарчай кампаніі саветаў. Частка школьнікаў заставалася пры малых дзецях і ўсемі мерамі ўзьдзейнічала на дарослых членаў сваёй сям'і зьяўляцца на перавыбары, а другая частка школьнікаў (старэйшых груп )хадзіла па дворох і заклікала ўсіх выбаршчыкаў на сходы. Характэрным у справе ўдзелу школьнікаў у справаздачна-перавыбарчай кампаніі па гэтаму сельсавету зьяўляецца той факт, што вучні Пуцілаўскай школы ў дадатак да наказу выпрацавалі шэраг практычных прапаноў, якія цалкам накіраваны на забясьпечаньне ўвядзеньня ў іх школе палітэхнізацыі. Выступленьне на выбарчым сходзе вучня, 9-ці гадовага хлапца, было нечаканым для ўсіх выбаршчыкаў відовішчам. Гэты вучань у сваёй прамове адзначыў шэраг мерапрыемстваў савецкай улады ў галіне падвышэньня культурнага ўзроўню працоўнага насельніцтва і закончыў сваю прамову, наступнымі словамі: „А цяпер мы патрабуем ад будучага складу сельсавету для поўнага ўвядзеньня ў нашай школе палітэхнізацыі арганізаваць у вёсцы Пуцілавічы калгас“. Гэтыя словы былі пакрыты бурнымі воплескамі.

У выніку ўсяе праведзенае работы з агульнага ліку 1667 выбаршчыкаў зьявілася на выбары 1436, або 86,7 проц., а з агульнага ліку 848 выбаршчыц-жанчын зьявілася 684, або 80, 6 проц. Абрана ў склад сельсавету 35 членаў, сярод якіх жанчын—9 або 25,7 проц., батракоў і рабочых—4 (11,4 проц.), калгасьнікаў—3 (9 проц.), беднякоў адзінаасобнікаў—24 (68,5 проц.) і серадьнякоў —8 (22,4 проц.). Адмоўным бокам у правядзеньні справаздачна-перавыбарчай кампаніі было тое, што на адным сходзе праводзілася справаздача сельсавету, прапрацоўка наказу і выбары. Усё гэта затрымлівала выбаршчыкаў па 6-7 гадзін.

Мы ўпэўнены, што новы склад Коранскага сельсавету выпаўніць наказ выбаршчыкаў і запатрабаваньні школьнікаў, поўнасьцю забясьпечыўшы ўвядзеньне ў школах сельсавету палітэхнізацыі.

Б. М.

---

**Умацаваць клясавую баяздольнасьць сельсаветаў у барацьбе за сацыялістычную вёску.**

# Рагоўскі сельсавет працуе дрэнна.

*(Заслаўскі раён).*

Рагоўскі сельскі савет яшчэ да гэтага часу слаба кіруе калгасам „Полымя", а таксама і ўсімі ўстановамі, якія знаходзяцца на яго тэрыторыі.

Ня лепш абстаіць справа і з разгортваньнем работы па ўцягненьню бядняцка-серадняцкага сялянства ў існуючы калгас, а таксама і па арганізацыі новых калгасаў.

Амаль што ніякай увагі не зьвяртаецца і на кіраўніцтва работаю саўгасу „Камунар", дзякуючы чаму апошні мае значныя гаспадарчыя недахопы ва ўсіх галінах сваёй работы.

Сельсавет дрэнна кіруе рознымі камісіямі, якія існуюць пры сельсавеце, адчаго яны, як асноўныя дапаможныя органы ў рабоце с/с, апыніліся ў ролі бязьдзейных.

Зусім адсутнічае і плянавасьць у рабоце сельсавета, што прывяло да самацёку яго работы.

Група беднаты, якая арганізавана пры сельсавеце, ніякай дапамогі з боку савету не атрымоўвае, а пры камітэце ўзаемадапамогі і зусім не арганізавана. Вельмі дрэнна пастаўлена работа сярод жанчын бяднячак і сераднячак.

Слаба пастаўлена работа і ў адносінах выкананьня важнейшых гаспадарча-палітычных кампаній, як хлебазагатоўкі бульбазагатоўкі.

Не асабліва добра прайшла кампанія па вучоту аб'ектаў абкладаньня на 1930-31 г. Паступленьне сельскагаспадарчага падатку і страхоўкі ідзе марудлымі тэмпамі, а з кулацкіх гаспадарак, а якія зроблены тыя ці іншыя налічэньні, яшчэ і па сёньняшні дзень поўнасьцю не паступілі, асабліва с.-г. падатак страхоўка.

Надзвычайна дрэнна праведзена работа па самаабкладаньню, у сувязі з чым па 5 насялённых пунктах самаабкладаньне не праведзена, а там дзе праведзена, дык зусім дрэнна робіцца спагнаньне. Спагнана ня больш 300-350 р. замест 3000 руб.

Заслаўскаму райвыканкому на гэты сельсавет неабходна зьвярнуць асаблівую ўвагу і ў першую чаргу на арганізацыю і палепшаньне работы калгасу „Полымя" з тым, каб яна служыла стымулам для ўцягненьня ў яго бядняцка-серадняцкіх гаспадарак і прыкладам для арганізацый новых калгасаў.

Сельскі савет павінен ўзмацніць работу па кіраўніцтву ўсімі ўстановамі, якія знаходзяцца на тэрыторыі сельсавету шляхам заслухоўваньня іх дакладаў на прэзыдыумах і пленумах з папярэднім абсьледваньнем кожнае з іх адпаведнымі камісіямі, зьвярнуўшы асаблівую ўвагу на кіраўніцтва саўгасам „Камунар" і калгасам „Полымя".

Зараз-жа неабходна рэарганізаваць існуючыя камісіі пры сельсавеце згодна новага палажэньня аб сельсаветах і прыняць усе меры да таго, каб ажывіць іх дзейнасьць, згодна новага палажэньня.

Патрэбна безадкладна ажывіць работу групы беднаты пры сельсавеце, а таксама прыняць неадкладныя меры да арганізацыі групы беднаты і пры камітэце ўзаемадапамогі, зьвярнуўшы на гэтую галіну работы максымум увагі.

Рэвізыйная камісія павінна больш цікавіцца работаю сельсавета, зварочваючы сур'ёзную ўвагу на пазысканьне самаабкладаньня і рэалізацыю пазыкі „Пяцігодка ў чатыры гады".

Вось усё тое, чым хварэе Рагоўскі сельсавет.

С. Лодысеў.

**Перабудова працы сельсаветаў адна з нашых асноўных задач сёньняшняга дню.**

# ПА САЮЗУ САВЕЦКІХ РЭСПУБЛІК.

(Р о з н а е)

## Аб мерапрыемствах па ўзмацненьні сельскіх бюджэтаў у РСФСР.

Прэзыдыум Усерасійскага ЦВК зацьвердзіў праэкт пастановы ЦВК і СНК аб узмацненьні бюджэтаў сельскіх саветаў у РСФСР.

У раёнах суцэльнай калектывізацыі самастойныя бюджэты ўводзяцца ва ўсіх сельскіх саветах пачынаючы з 1-га студзеня 1931 г.; у астатніх раёнах самастойныя бюджэты ўводзяцца у тых сельскіх саветах, якія аб'яднаюць 1000 і больш чалавек. У сельскіх саветах, аб'яднаючых менш 1000 чалавек, самастойныя бюджэты могуць ўводзіцца ў выпадках, калі маюцца неабходныя ўмовы для іх арганізацыі (уласныя прыбытковыя крыніцы, неабходны кадр работнікаў і г. д.). Вельмі пашыраюцца бюджэтныя правы сельскіх саветаў. Пленумы сельскіх саветаў зацьвярджаюць сельскія бюджэты пры ўмове іх бездэфіцытнасьці; маюць права самастойна перасоўваць крэдыты з параграфу ў параграф у межах аднаго і таго-ж разьдзелу. На бюджэты сельскіх саветаў передаецца фінансаваньне мерапрыемстваў і утрыманьне ўстаноў, якія абслугоўваюць патрэбы насельніцтва тэрыторыі сельсавету, а у некоторых выпадках таксама фінансаваньне мерапрыемстваў раённага значэньня (пры адлегласьці раённага цэнтру, моцнасьці сельскага бюджэту і інш.).

## Аб становішчы і задачах інфармацыйна-статыстычнай работы ў РСФСР.

Прэзыдыум Усерасійскага ЦВК пастанавіў зацьвердзіць пастанову першай Усерасійскай нарады інфармстатработнікаў аб становішчы і задачах інфармацыйна-статыстычнай работы.

Паказанай пастановай прадугледжаны цэлы шэраг практычных мерапрыемстваў па палепшаньні інфармацыйна-статыстычнай работы ў цэнтры і на мясцох.

## Аб жаночай працы на транспарце ва Усеукраінскай С С Р.

Прэзыдыум Усеукраінскай ССР распрацаваў шэраг мерапрыемстваў па прымяненьні жаночай працы на транспарце. Удзельную вагу жанчын у агульным складзе рабочых транспарту намеркавана давесьці у 1931 г. да 15 проц. за лік прыцягненьня да работы жонак рабочых, дзяцей і іншых катэгорый працоўных жанчын. У чарговы прыём у навуковыя ўстановы лік прынятых жанчын павінен быць павялічан ня менш як да 20 проц. ва ВТУЗ'ы і 30-35 проц. у школы ФЗУ.

Упаўнаважанаму НК Шляхоў даручана распрацаваць адпаведныя кантрольныя лічбы на 1931 год.

## Утварэньне партызанскіх камісій ва Усеукраінскай С С Р.

Прэзыдыум Усеукраінскай ССР пастанавіў, у мэтах найлепшага забясьпечаньня бытавых і прававых інтарэсаў чырвоных партызан, чырвонагвардзейцаў і членаў іх сем'яў, а таксама і ўзьняцьця іх культурна-палітычнага ўзроўню, арганізаваць пры Прэзыдыуме ЦВК Цэнтральную партызанскую камісію. Такія самыя камісіі ўтвараюцца і на мясцох.

## Аб парадку пераходу спэцыялістых з аднэй установы ў другую ў Закаўкаскай СФСР.

У мэтах рэгуляваньня парадку прыцягненьня на работу спэцыялістых і ўнясеньня плянавасьці пры найме спэцыялістых, якія пераходзяць з аднэй установы у другую, ЦВК і СНК Закаўкаскай СФСР пастанавілі: абавязаць кіраўнікоў устаноў пры прыёме на службу спэцыялістага, пытаньне аб яго прыёме папярэдне ўзгадняць з кіраўніком установы яго ранейшай службы; спэцыялістыя, якія атрымоўваюць штомесячна зарплату у разьмеры 250 руб. і звыш пры пераходзе з аднэй установы ў другую ў межах аднаго поясу ў працягу году ня могуць атрымоўваць на новым месцы работы зарплату звыш той, якую яны атрымоўвалі на ранейшым месцы. Гэты парадак найма і аплаты не распаўсюджваецца на спэцыялістых, якія пераходзяць на работу ў сельскія мясцовасьці па мабілізацыі альбо з прычыны плянавай перакідкі спэцыялістых.

**Лібман.**

# Агляд важнейшых пастаноў Прэзыдыуму ЦВК БССР.

## Аб парадку і тэрмінах правядзеньня Райзьездаў Саветаў.

Прэзыдыум ЦВК пастанавіў пачаць правядзеньне раённых зьездаў саветаў з 15-га студзеня і скончыць да 10-га лютага 1931 г. У адносінах часу склі- каньня райзьездаў раёны БССР разьбіты на 4 чаргі: па 30 раёнах райзьезды склікаюцца на 15 студзеня, па 26 раёнах—на 25 студзеня, па 22 раёнах—на 30 студзеня і па 22—на 5 лютага 1931 г.

Парадак дню райзьездаў Прэзыдыум ЦВК рэкамэндаваў наступны: 1. Даклад Ураду БССР; 2. Справаздача РВК; 3. Пэрспэктывы культурнага і гаспадарчага будаўніцтва і зацьверджаньню бюджэту на 1931 г.; 4. Аб калектывізацыі сельскай гаспадаркі і падрыхтоўкі да чарговай вясновай пасеўнай кампаніі; 5. Выбары Райвыканкомаў; 6. Выбары на X Усебеларускі зьезд саветаў.

## Пра рэарганізацыю сыстэмы народнай асьветы.

Прэзыдыум ЦВК зацьвердзіў пастанову пра рэарганізацыю сыстэмы народнай асьветы.

У адпаведнасьці з сучаснымі запатрабаваньнямі сацыялістычнай рэканструкцыі народнай гаспадаркі вызначана наступная сыстэма народнай асьветы: а) дзіцячы сад ці дзіцячы прытулак для дзяцей дашкольнага ўзросту з тэрмінам прабываньня на працягу 4-х год (ад 4-х да 8 год); б) масавая палітэхнічная сямігадовая школа трох тыпаў—фабрычна-заводзкая, калгасная і камунальная; в) прафтэхнічная школа на базе сямігадовай палітэхнічнай школы; г) вышэйшая школа з 3-4 гадовым тэрмінам навучаньня.

Для падвышэньня агульнай асьветы і вытворчай кваліфікацыі дарослых рабочых і калгасьнікаў пабудована дадатковая сыстэма для дарослых і перарослкаў, разьлічаная на дзённае і вячэрняе навучаньне.

## Аб роспуску Урадавай Камісіі па ліквідацыі акруг.

У зьвязку са сканчэньнем Урадавай Камісіі па ліквідацыі акруг сваёй работы, Прэзыдыум ЦВК пастанавіў гэткую распусьціць.

## Ліквідацыя НКУС БССР.

Згодна пастановы ЦВК і СНК БССР з 1-га студзеня 1931 г. зьліквідаваны НКУС БССР. Функцыі, якія раней уваходзілі ў кампэтэнцыю НКУС, разьмеркаваны паміж іншымі органамі наступным чынам: а) для кіраваньня камунальнай гаспадаркай, прамысловым будаўніцтвам і пажарнай справай пры СНК БССР арганізоўваецца Галоўнае Кіраўніцтва камунальнай гаспадаркі; б) для кіраваньня міліцыяй і крымвышуку і адмнагляду (акрамя прадугледжаных пунктам „в“) пры СНК арганізоўваецца кіраўніцтва міліцыі і крымвышуку; в) агульнае кіраваньне дзейнасьцю органаў ЗАГС, кіраваньне справамі па прыёму грамадзянства Саюзу ССР, па выдачы замежных пашпартаў і праўным становішчы чужаземцаў, а таксама справамі, зьвязанымі з культамі і дзейнасьцю таварыстваў, якія ня маюць на мэце атрыманьня прыбытку, перададзена ў веданьне Сакратарыяту Прэзыдыуму ЦВК; г) пытаньні савецкага будаўніцтва (адміністрацыйны падзел, нагляд за дзейнасьцю нізавога савецкага апарату, падлік асоб, пазбаўленых выбарчых правоў і г. д.) перададзены ў веданьне Аргінстру Прэзыдыуму ЦВК; д) месцы зьняволеньня, а таксама і арганізацыя прымусовых работ перададзены НКЮ БССР.

## Аб Усебеларускай лыжнай эстафэце да X-га Усебеларускага Зьезду Саветаў.

Сакратарыят ЦВК ухваліў узьнятую Вышэйшым Саветам Фізкультуры работу па правядзеньні, у сувязі з адбываючайся справаздачна-перавыбарчай кампаніяй саветаў, фізкультурнай эстафэты. Лепшай раённай фізкультурнай арганізацыі па ўдзелу ў правядзеньні справаздачна-перавыбарчай кампаніі саветаў вызначан пераходзячы сьцяг ад імя Прэзыдыуму ЦВК.

Сакратарыят ЦВК таксама прыняў да ведама, што фізкультурныя эстафэты скончацца Усебеларускай лыжнай эстафэтай, прыстасаванай да X-га Усебеларускага Зьезду Саветаў.

Райвыканкомам і саветам даручана аказваць садзейнічаньне ў правядзеньні гэтай эстафэты.

### Аб нормах прадстаўніцтва на X-м Усебеларускім Зьездзе Саветаў.

У зьвязку з паступленьнем ад некаторых райвыканкомаў хадайнічаньняў аб павялічэньні ад іх раёнаў нормы прадстаўніцтва на X Усебеларускі Зьезд Саветаў, Прэзыдыум ЦВК пастанавіў забараніць райвыканкомам пашырыць прадстаўніцтва на X Усебеларускі Зьезд Саветаў звыш колькасьці дэлегатаў, вызначанай Прэзыдыумам ЦВК БССР у адпаведнасьці з Канстытуцыяй.

### Аб становішчы сувязі з раёнамі.

Прэзыдыум ЦВК заслухаў даклад Намесьніка Упаўнаважанага Наркампаштэля тав. Каменева аб становішчы сувязі з раёнамі.

Становішча сувязі зьяўляецца нездавальняючым у параўнаньні з тымі запатрабаваньнямі, якія ўзьнікаюць у сувязі з пераходам на непасрэднае раённае кіраўніцтва. Паштовай сувязьзю сельскае насельніцтва ахоплена на 85 проц., райвыканкомы і сельсаветы—на 100 проц. Зусім нездавальняюча абстаіць справа з рухам пошты па трактах. У адносінах дастаўкі газэт ёсьць шэраг недахопаў, часткова па віне пошты, часткова-жа па віне рэдакцый газэт. Становішча электрычнай сувязі з тэхнічнага боку здавальняюча, аднак, яе пабудова ў свой час была ў большасьці выпадкаў дапасавана на сувязь з акруговымі цэнтрамі. На 1931 г. намечан капітальны рамонт тэлеграфных і тэлефонных ліній. Тэлеграфную сувязь Менск мае толькі з 19 раёнамі, непасрэдную тэлефонную сувязь з 25 раёнамі, трансляцыяй—с 33 раёнамі і прыёмнікамі—з 41 раёнам. Цэльная тэлефонізацыя маецца па 17 раёнах. У горадзе Менску заканчваецца пабудова аўтаматычнай станцыі, намечана пабудова такіх-жа станцый і ў іншых буйных гарадох. Усе раёны БССР забясьпечаны радыё-установкамі, але працуюць яны нездавальняюча. Наркампаштэлям намечан шэраг мерапрыемстваў па падрыхтоўцы кадраў сувязі.

Прэзыдыум ЦВК ухваліў мерапрыемствы Упаўнаважанага Наркампаштэля па будаўніцтву сувязі, накіраваныя на тое, каб на працягу 1931 году зьвязаць усе раёны тэлеграфнай і тэлефоннай сувязьзю і сельсаветы—тэлефоннай сувязьзю. Прэзыдыум ЦВК прызнаў неабходным у найкарацейшы тэрмін устанавіць радыё-сувязь з усімі раёнамі. Райвыканкомам і сельсаветам даручана зьвярнуць увагу на сталае кіраўніцтва работай аддзелаў сувязі на мясцох.

### Стварэньне лінейнага чыгуначнага суду.

Прэзыдыум ЦВК пастанавіў арганізаваць на тэрыторыі БССР пры Упаўнаважаным Народнага Камісарыяту Шляхоў Зносін лінейна-чыгуначны суд і Пракуратуру па транспарту. Пракурорам па транспарту будзе адзін з памоцнікаў Пракурора Рэспублікі, а старшынёй лінейна-чыгуначнага суду—адзін з членаў Вярхоўнага Суду БССР. Прэзыдыум ЦВК таксама зацьвердзіў сьпіс народных засядацеляў для лінейна-чыгуначнага суду ў ліку 61 асобы.

### Аб укамплектаваньні вайсковых навучальных устаноў.

Прэзыдыум ЦВК зацьвердзіў Цэнтральную вярбовачную камісію па ўкамплектаваньні вайсковых навучальных устаноў у наступным складзе: т. т. Васілевіч (Старшыня камісіі), Дубаўцоў, Гальшток, Навасёлкаў, Шацкін, Маслакоў і Гузікаў.

Раённым выканаўчым камітэтам і гарсаветам, вылучаным у самастойныя адміністрацыйна-гаспадарчыя адзінкі, даручана зараз-жа вылучыць раённыя і гарадзкія вярбовачныя камісіі.

### Аб рабоце саветаў з дэлегаткамі.

Сакратарыят ЦВК зацьвердзіў пастанову аб рабоце саветаў з дэлегаткамі.

Перавыбарчая кампанія дэлегацкіх сходаў у гэтым годзе значна пашырыла сетку дэлегацкіх сходаў і павялічыла колькасьць дэлегатак. Дэлегацкія сходы адыгрываюць вялікую ролю ў справе клясавага выхаваньня працоўных жанчын. Сакратарыят ЦВК прапанаваў райвыканкомам і саветам: надаць асабліва важнае значэньне рабоце дэлегацкіх сходаў; прапрацаваць на дэлегацкіх сходах асноўныя пытаньні работы саветаў;

забясьпечыць удзел у сацыялістычным будаўніцтве ўсіх дэлегатак з тым, каб кожная мела пэўную практычную нагрузку ў савеце і грамадзкіх арганізацыях. Асаблівая ўвага павінна быць зьвернута на работу з прымацаванымі да саветаў дэлегаткамі-практыканткамі.

**Пра ліквідацыю акруговых камісій па фонду імя Леніна.**

Прэзыдыум ЦВК, у сувязі з ліквідацыяй акруг, пастанавіў ліквідаваць акруговыя камісіі па фонду імя Леніна— дапамогі бяспрытульным дзецям. Наркамфіну БССР даручана штогод забясьпечваць пэўную суму асыгнаваньняў у фонд імя Леніна; Цэнтральнай Камісіі па фонду імя Леніна даручана распрацаваць у месячны тэрмін праэкт новага Палажэньня па фонду імя Леніна, улічыўшы пераход на раённую сыстэму кіраўніцтва.

**Пра арганізацыю нацыянальнага яўрэйскага савету ў мяст. Кублічах.**

Прэзыдыум ЦВК пастанавіў арганізаваць у мястэчку Кублічах, Вушацкага раёну, нацыянальны яўрэйскі савет. Агульная колькасьць насельніцтва Кубліцкага нацыянальнага савету 784 чалавек, з якіх яўрэяў 70,7 проц.

**Л-н.**

# Даведка рэдкалегіі.

У адказ на зьмешчаны ў нашым часопісу № 12 артыкул „Аб падрыхтоўцы да вясеньняй сяўбы“ (па Лельчыцкаму раёну), Плянава-Эканамічны сэктар НКЗему паведамляе наступнае. Пасеўная плошча пад яравы клін на 1931 г. вызначаная НКЗемам Лельчыцкаму раёну, бязумоўна, зьяўляецца напружанай, але гэта зьяўляецца ня выключным зьявішчам для Лельчыцкага раёну.

Саюзным Наркамземам і Саветам Народных Каімісараў БССР перад Наркамземам пастаўлена задача пашырэньня яравога кліну ў вясеньнюю сяўбу 1931 г. па БССР на 400.000 га, гэта задача і пастаўлена перад кожным раёнам у меру тых мажлівасьцей, якімі распалагае кожны раён. У сваіх меркаваньнях НКЗ падыходзіць да кожнага раёну індывідуальна. Так у прыватнасьці перад Лельчыцкім раёнам пастаўлена задача пашырыць яравы клін канкрэтна на 3085 га: за рахунак меліарацыйнага асваеньня 30, за рахунак распашак няпрыгодных выганаў, сухадолаў 648, раскарчовак быўшых лясных плошчаў і хмызьнякоў 1570 і за рахунак скарачэньня незанятых папароў 837. Гэтыя разрахункі і крыніцы пашырэньня паведамлены і Лельчыцкаму РВК у лісьце ад 5.XII за № 243.

Спасыланьне дапісчыка на 50 проц. пашырэньне якое як-бы пастаўлена перад Лельчыцкім раёнам тлумачыцца тым, што раёны наогул усё вядуць свае разрахункі ад пасеўнае плошчы 1930 г., якая значыцца па НКФ учоту аб'ектаў абкладаньня, а гэта плошча бязумоўна праўменшаная і НКЗ пры праектаваньні пасеўных плошчаў па раёнах выходзіў з дадзеных Дзяржпляна БССР. У прыватнасьці па Лельчыцкаму раёну дано заданьне пашырыць пасеўную плошчу яравых 1931 г. на 25 проц.

**Плянава-Эканамічны Сэктар НКЗБ.**

# ПАСТАНОВЫ УРАДУ БССР.

## Пастанова Прэзыдыуму ЦВК БССР

### Аб ходзе справаздачна-перавыбарчай кампаніі Саветаў.

Заслухаўшы даклад Цэнтральнай Выбарчай Камісіі аб ходзе справаздачна-перавыбарчай кампаніі саветаў БССР, Прэзыдымум Цэнтральнага Выканаўчага Камітэту БССР адзначае:

1. Справаздачна-перавыбарчая кампанія саветаў, ня гледзячы на некаторае павялічэньне яўкі выбаршчыкаў на сходы і павялічэньне ў складзе сельсаветаў рабочага і партыйнага ядра і колькасьці жанчын, усё-ж праходзіць нездавальняюча. Адсутнасьць да гэтага часу ад 38 раёнаў папярэдніх зьвестак аб ходзе справаздачна - перавыбарчай кампаніі ставарае пагрозу зьдзяйсьненью кіраўніцтва сваечасовай дапамозе з боку цэнтральных устаноў правядзеньню перавыбараў сельсаветаў у БССР.

2. У значнай частцы раёнаў справаздачна - перавыбарчая кампанія саветаў яшчэ не пастаўлена ў цэнтры ўвагі ўсіх іншых гаспадарча-палітычных кампаній і ёй не надана адпаведнага палітычнага зьместу.

3. У некаторых раёнах слаба арганізавана бедната, батрацтва і калгасьнікі для дачы рашучага атпору клясаваму ворагу-кулаку, і рашучага адстойваньня сваіх кандыдатур і супроць-пастаўленьня кулацка-папоўскай агітацыі сваёй вытрыманай клясавай лініі.

4. Цэнтральная і асабліва раённыя газэты недастаткова асьвятляюць у друку ход справаздачна-перавыбарчай кампаніі, асабліва аб клясавай барацьбе на вёсцы.

5. Слабы ўдзел прымаюць у справаздачна-перавыбарчай кампаніі прафсаюзныя, камсамольскія і іншыя грамадзкія арганізацыі, якія ў большасьці выпадкаў абмежаваліся фармальным вылучэньнем сваіх прадстаўнікоў у склад выбарчых камісій.

6. Пытаньні выкананьня і перавыкананьня прамфінпляну ў прамысловасьці, далейшага будаўніцтва саўгасаў, калгасаў у сельскай гаспадарцы і разьвіцьця ў іх сацспаборніцтва, ударніцтва да гэтага часу не зьяўляюцца галоўнымі ў перавыбарчай кампаніі.

Зусім слаба завострана ўвага савецкай грамадзкасьці на выяўленьне і барацьбу з права-апартуністычнай практыкай дзейнасьці саветаў і паасобных выканкомаў (Чарэйскі, Капыльскі і інш. раёны).

7. Усе пералічаныя факты па шэрагу р-наў прывялі да паніжэньня проц. яўкі выбаршчыц-жанчын на выбарчыя сходы, да памяншэньня колькасьці выбраных у склад сельскіх саветаў жанчын, партыйцаў, камсамольцаў і наогул рабочых і батракоў (Бешанковіцкі, Бярэзінскі, Веткаўскі, Краснапольскі, Капыльскі, Ляднянскі, Лепельскі, Парыцкі, Чэрыкаўскі, Дубровенскі, Коханаўскі, Сьмілавіцкі, Уваравіцкі, Грэскі і Прапойскі раёны).

Выходзячы з вышэйадзначанага, Прэзыдыум Цэнтральнага Выканаўчага Камітэту БССР прапануе ўсім раённым выканаўчым камітэтам і саветам:

1. Зьвярнуць асаблівую ўвагу на арганізацыю актыўнасьці працоўных мас вакол справаздачна-перавыбарчай кампаніі саветаў, паставіць апошнюю на чале ўсіх бягучых палітычна-гаспадарчых кампаній, абапіраючыся пры яе правядзеньні на новы масавы актыў ударнікаў-рабочых, калгасьнікаў, беднату. Павялічыць агульную яўку выбаршчыкаў, асабліва беднаты, жанчын і калгасьнікаў на справаздачна-перавыбарчыя сходы, а таксама забясьпечыць поўнае выкананьне дырэктыў аб большым уцягненьні ў новыя склады сельсаветаў партыйцаў, камсамольцаў, калгасьнікаў і жанчын, у першую чаргу работніц, батрачак, бяднячак і калгасьніц.

2. Прасіць ЦСПСБ і ЦК ЛКСМ даць па сваёй лініі адпаведныя дырэктывы на месцы аб узмацненьні ўдзелу прафсаюзных і камсамольскіх мас у правядзеньні справаздачна-перавыбарчай кампаніі саветаў, а таксама аб сваечасовым выязьдзе для сталай работы ў сельскіх

саветах вылучаных для гэтай мэты рабочых і членаў ЛКСМ.

3. Паказаць цэнтральным і раённым газэтам на неабходнасьць штодзённа асьвятляць у друку ход справаздачна-перавыбарчай кампаніі саветаў, асабліва заастраючы пры гэтым увагу савецкай грамадзкасьці на праходзячую ў вёсцы клясавую барацьбу і на выкрыцьцё ўсіх махінацый кулацтва.

4. Прапанаваць усім выехаўшым у раёны членам ЦВК і ўпаўнаважаным ад Цэнтральнай Выбарчай Камісіі тэрмінова зьвязацца з цэнтральнымі і раённымі газэтамі і кожныя 5 дзён прысылаць ім зьвесткі аб ходзе справаздачна-перавыбарчай кампаніі на мясцох і яе ўвязцы з іншымі гаспадарча-палітычнымі кампаніямі, якія зараз праводзяцца на вёсцы.

5. За непрадстаўленьне папярэдніх зьвестак аб ходзе справаздачна-перавыбарчай кампаніі саветаў абвясьціць вымову з апублікаваньнем у друку Магілеўскаму, Пухавіцкаму, Рагачэўскаму, Смалявіцкаму, Чэрвенскаму, Горацкаму, Копыскаму Бабруйскаму, Буда-Кашалёўскаму і Віцебскаму раённым выканаўчым камітэтам.

6. Лічыць неабходным пасылку ў адстаючыя раёны членаў Прэзыдыўму ЦВК, членаў ЦВК і іншых адказных цэнтральных работнікаў для дапамогі ў правядзеньні справаздачна-перавыбарчай кампаніі і выпраўленьні тых недахопаў, якія маюцца па гэтай кампаніі.

7. У мэтах пасьпяховага правядзеньня справаздачна-перавыбарчай кампаніі саветаў, зьвярнуць асаблівую ўвагу на поўнае выкананьне ўсіх дырэктыў Урада аб рабоце з батрацка-бядняцкімі групамі пры сельскіх саветах, з жаночым актывам, папярэднюю падрыхтоўку кандыдатур, уцягненьні жанчын у работу саветаў, перабудове работы саветаў у адпаведнасьці з задачамі сацыялістычнай рэканструкцыі сельскай гаспадаркі.

8. Даручыць Пракуратуры Рэспублікі па ўсіх справах аб злосным зрыве справаздачна-перавыбарчай кампаніі правесьці тэрмінова расьследваньні і вінаватых прыцягнуць да судовай адказнасьці ў паказальным парадку.

9. Даручыць Сакратарыяту ЦВК тэрмінова распрацаваць праект мерапрыемстваў па забясьпечаньні ажыцьцяўленьня пастаноў Сэсіі ЦВК у галіне справаздачна-перавыбарчай кампаніі саветаў.

Старшыня Цэнтральнага Выканаўчага Камітэту БССР
**А. Чарвякоў.**

Сакратар Цэнтральнага Выканаўчага Камітэту БССР
**А. Хацкевіч.**

25-га сьнежня 1930 г.
г. Менск.

# *УВАГА*

## Арганізавана таварыства марксыстых-дзяржаўнікаў Беларускае ССР.

5-га сьнежня 1930 г. адбыўся першы ўстаноўчы сход работнікаў тэорыі і практыкі кіраўнікоў у галіне савецкага будаўніцтва і права па арганізацыі Беларускага Таварыства Марксыстых-Дзяржаўнікаў.

Колькасьць членаў устаноўчага сходу налічваецца каля 37 чал. Сход пастанавіў арганізаваць Беларускае Таварыства Марксыстых-Дзяржаўнікаў, аб'яднаць усе сілы БССР у галіне тэорыі і практычнага кіраўніцтва па савецкаму будаўніцтву і праву.

Сход абраў праўленьне у складзе 5 асоб: т. т. **Хацкевіча, Канапліна, Голанза, Ракава, Гершэльмана**. Старшынёю Таварыства абраны т. **Хацкевіч**. Навуковым Сакратаром Таварыства—т. **Канаплін**.

Рэвізыйная камісія абрана ў складзе т. т. Штэера, Сьцефановіча і Мікуліча (Аргінстр Прэзыдыуму ЦВК БССР).

Агульны сход устаноўцаў таварыства, а затым і праўленьне таварыства выказаліся за неабходнасьць пастаноўкі дакладу на пасяджэньні аднэй з сэкцый 1-га Усесаюзнага зьезду Марксыстых-Дзяржаўнікаў, які адбудзецца ў Маскве ў пачатку студзеня месяцу, на тэму: „Праяўленьні вялікадзяржаўнага шавінізму, беларускага нацыянал-дэмакратызму і розных шавінізмаў і нацыяналізмаў у тэорыі і практыцы савецкага будаўніцтва і права ў БССР".

24 сьнежня 1930 г. і 2-га студзеня 1931 г. адбыліся пашыраныя агульныя сходы членаў таварыства, на якіх заслуханы і абгавораны даклад т. Канапліна на тэму: „Становішча на фронце тэорыі дзяржавы, права і савецкага будаўніцтва ў БССР і задачы таварыства Марксыстых-Дзяржаўнікаў". Разгляд прапаноў па гэтаму дакладу, а таксама і пляну работы Беларускага Таварыства Марксыстых-Дзяржаўнікаў перанесена на чарговы агульны сход.

**Праўленьне таварыства на аснове абмену думкамі агульнага ўстаноўчага сходу намеціла ўцягнуць у таварыства, у якасьці членаў яго шырокія колы тэарэтыкаў і практыкаў старых і маладых навуковых сіл і практычных дзеячоў у галіне савецкага будаўніцтва і права як партыйных, так і беспартыйных, стаячых на пункце погляду ўстава таварыства, здольных і магучых весьці работу ў таварыстве.**

---



Выданьне Прэзыдыуму ЦВК БССР. Рэдактар—Рэдкалегія.

Друкарня Кіраўніцтва Спраў СНК і ЭКАНА БССР. Заказ № 1—3000 экз. Галоўлітбел № 1428

